Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-кооперацыйнага саюзу паляўнічых

1929
№ 11-12
Лістапад-Сьнежань

Год выданьня III



Выглядвае.

ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

№ 11-12 лістапад сьнежань. Штомесячная часопісь. Орган Белкахотсаюзу. Год выданьня 3-ці. 1929

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
На 1 год . . 2 р.
На 6 м-цаў . . 1 р. 20 к.
На 3 м-цы . . 70 к.

АБВЕСТКІ:
Старонка перад тэкстам 150 р.
На апошн. стар. вокл. 100 р.
Ззаду тэксту . . . 70 р.
Аб прапажы сабак . . 1 р.
Аб прадажы сабак . . 3 р.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
*Менск, Савецкая, № 71. Тэлефон—405.*

## ЗЬМЕСТ



# ЗА БЯЗЬДЗЕЙНАСЬЦЬ—РАСПУШЧАНЫ БЮРО КАЛЯКТЫВАЎ ЧЭРВЕНЬСКАГА, СЬМІЛАВІЦКАГА, САМАХВАЛАВІЦКАГА і КОПЫЛЬСКАГА РАЁНАЎ.

### Абвясьцім бязьлітасную барацьбу растратчыкам, галавацяпам і бюрократам.

Друкуемая ніжэй пастанова „Белкохотсоюза" ад 13/XI аб роспуску бюро каляктываў Сьмілавіцкага, Чэрвеньскага, Самахвалавіцкага і Копыльскага раёнаў-(Менскай акругі) зьяўляецца дакумантам вельмі важным у далейшай рабоце паляўнічае каапэрацыі.

Пералічаныя вышэй бюро каляктываў ня толькі нічога не зрабілі, а нават нічога і ня імкнуліся зрабіць і да ўсяго гэтага Сьмілавіцкае і Самахвалавіцкае зрабілі вялікія растраты.

Дырэктывы партыі і ўраду аб каапэраваньні беднаты, аб ачышчэньні саюзу паляўнічых ад былых людзей гэтымі каляктывамі ня выкананы і, наогул, за ўвесь час пасьля апошніх перавыбараў, ніякае працы не вялося.

Вось што мы знаходзім у дакладной запісцы інструктара „Белкохотсоюза", якая падана праўленьню.

Копыльскае бюро каляктыву—„каапэраваньня беднаты не праводзілася і фонд гэты не скарыстаны. Культурна-асьветнай працы не праводзілася, сацыяльны склад паляўнічых не праверany. Грашовая частка ў хаотычным становішчы. Часопіс „Паляўнічы Беларусі" выпісваецца ў малой колькасьці. Раённая паляўнічая бібліятэка ляжыць бяз усякага руху. Барацьба з браканьерствам вялася зусім слаба. Рэвізійная камісія з часу выбараў прабавала два разы рабіць рэвізію, але-ж і да гэтага часу ня скончыла яе".

Чэрвеньскае бюро—„добрых бакоў няма. Культурна-асьветная праца не праводзілася. Справаводзтва пастаўлена дрэнна. Сацыяльны склад саюзу не праверан. Бедната не каапэраваная".

Сьмілавіцкае бюро— „добрых бакоў працы няма. Справаводзтва і грашовая частка знаходзяцца ў хаотычным становішчы. Культурна-асьветная і грамадзкая праца не вялася. Барацьбы з браканьерствам не вялося. Сацыяльны склад не праверан. Вучоту членаў няма. Старшыня каляктыву Курэйчык растраціў 501 руб.".

Самахвалавіцкае бюро—„агульных сходаў паляўнічых ня было. Справаводзтва знаходзіцца ў хаотычным становішчы. Бедната не каапэравана. Бібліятэка ляжыць бяз дзейнасьці. Культурна-асьветная праца не праводзілася. Барацьбы з браканьерствам не вялося. Сацыяльны склад не праверан. Рэвізійная камісія ні разу не правярала працы. Сакратар каляктыву Панкоўскі растраціў 300 руб.".

Вось беглы агляд працы некаторых каляктываў Менскай аругі. Такое становішча мы маем у каляктывах Менскай акругі, якія працуюць пад вокам „Белкохотсоюза".

З допісаў, якія паступаюць у рэдакцыю „П. Б"., відаць, што ня лепш абстаіць справа і ў іншых акругах.

Пры такім становішчы, пры такіх адносінах да працы, мы з стаячымі перад нашай сыстэмай задачамі ня справімся.

Акруговыя таварыствы, уся паляўнічая маса павінны з друкуемай ніжэй пастановы „Белкохотсоюза" зрабіць адпаведны вывад.

Трэба зараз-жа ўзяцца за праверку і самаправерку, як працуе наша сыстэма, як адносіцца кожны з выбарчага складу да выкананьня даручаных яму абавязкаў.

Разгортваючы крытыку ў штодзеннай нашай рабоце, пры актыўным удзеле

усіх паляўнічых мас, ажыцьцявім усю нашу працу. Выкінем з нашых шэрагаў людзей, якія перашкаджаюць працаваць, людзей, якія пакрыўляюць клясавую лінію.

* * *

Рэдакцыя часопісі „Паляўнічы Беларусі“ з гэтага нумару адводзіць вялікае месца працы на мясцох і зварачаецца да ўсіх дапісчыкаў дапамагчы ў асьвятленьні працы месц.

## ПАСТАНОВА „БЕЛКОХОТСОЮЗА“.

Заслухаўшы даклад інструктара „Белкохотсоюза“ па Менакрузе т. Лагутчыка аб выніках абгляду працы Капыльскага, Пухавіцкага, Чэрвеньскага, Сьмілавіцкага, Койданаўскага і Самахвалавіцкага бюро райколектываў, Цэнтральнае праўленьне „Белкохотсоюза“ пастанаўляе:

1. *Сьмілавіцкае, Чэрвеньскае, Самахвалавіцкае і Копыльскае* бюро райкалектываў за поўную бязьдзейнасьць і пакрыўленьне клясавае лініі (невыкананьне дырэктывы аб каапэраваньні беднаты і праверка сацыяльнага складу саюзу)—распусьціць.

2. *Аддаць пад суд* старшыню Сьмілавіцкага калектыву *Курэйчыка* за *растрату 501 руб.* і сакратара Самахвалавіцкага раёну *т. Папкоўскага за растрату 300 руб.* Прыцягнуць да адказнасьці Сьмілавіцкую рэўкамісію, якая нічога не зрабіла, каб выкрыць растрату.

3. Зьвярнуць увагу МенАВК на тое, што РВК ня кіруюць працаю райкалектываў.

4. Склікаць у Менску ў канцы лістапада нараду старшынь бюро райкалектываў і старшынь сельскіх ячэек, дзе прапрацаваць пытаньне, як працаваць. Такія-ж нарады прапанаваць склікаць і астатнім акругам.

5. Перавесьці на гаспадарчы разрахунак Койданаўскі калектыў і прапанаваць Барысаўскаму, Пухавіцкаму, Чэрвеньскаму і Менгаркалектыву перайсьці на гаспадарчы разрахунак не пазьней 1-га студзеня.

6. Перавыбары распушчаных калектываў зрабіць не пазьней 24 лістапада, даручыўшы інструктару „Белкахотсаюза“ па Менскай акрузе падрыхтаваць гэта пытаньне.

7. Аргаддзелу „Белкохотсоюза“ тэрмінова праверыць і прапрацаваць існуючую сыстэму і форму каапэраваньня беднаты.

---

## Забыты вучастак работы.

У працы ўстаноў і арганізацый на вёсцы павінны знайсьці поўны адбітак дырэктывы партыі — апора на беднату, саюз з серадняком і палітычная ізаляцыя кулака; таму разгортваньне работы сярод беднаты, узьняцьце яе палітычнай сьвядомасьці, павялічэньне ўдзельнай вагі ў жыцьці вёскі і палепшаньне працы груп беднаты пры ўстановах і арганізацыях, набывае асаблівае значэньне.

У паляўнічай каапэрацыі, як і ў іншых каапэрацыйных аб‘яднаньнях, дзе за апошнія часы мы сустракаемся з скрыўленьнем лініі партыі, групы беднаты амаль-што не працуюць і гэтай працы з боку кіруючых органаў не ўдзялялася ніякай увагі. Дзякуючы гэтаму ўсе нашы добрыя пастановы аб палепшаньні вядзеньня паляўнічай гаспадаркі, барацьбе з браканьерамі, драпежнікамі, каапэраваньню і крэдытаваньню беднаты, не находзячы на месцы належнага падтрыманьня, застаюцца „гласом вопиющего в пустыне“.

Мне здаецца, што вырашэньне гэтых важнейшых практычных пытаньняў паляўнічай каапэрацыі самым шчыльным чынам зьвязана з палепшаньнем работы сярод беднаты. Таму неабходна пры раённых праўленьнях там, дзе няма камуністычных фракцый, а таксама ў маштабе сельсавецкіх і вясковых паляўнічых ячэек з абраных у кіруючыя органы беднякоў, калгасьнікаў, батракоў, партыйцаў і камсамольцаў, арганізаваць групы беднаты. Кіраўніцтва іх работай павінна быць ускладзена на партыйцаў ці камсамольцаў, абраных у склад кіруючых органаў па ўзгадненьню з партыйнай ячэйкай. Групы беднаты ні ў якім разе не павінны сваёй дзейнасьцю падмяняць выбарчы орган. Таму на сваіх пасяджэньнях яны павінны разглядаць важнейшыя пытаньні работы абранага органу, напрыклад: аб барацьбе з драпежнікамі, з браканьерамі, аб крэдытаваньні беднаты, аб яе каапэраваньні, аб загатоўцы пушніны, аб чыстцы паляўнічай каапэрацыі, аб кулацкіх і варожых элемэнтах і шэраг іншых пытаньняў, зьвязаных з мясцовай работай паляўнічай ячэйкі,—з аднаго боку і пытаньні, зьвязаныя з удзелам паляўнічых у агульнай працы на вёсцы—калектывізацыі, перавыбарах саветаў КСТУ і шэраг іншых кампаній, праводзімых на вёсцы,—з другога боку, высоўваючы іх пасьля абгаварэньня на пасяджэньні групы, на вырашэньне кіруючых органаў і дабіваючыся праваздзеньня ў жыцьцё. У тых-жа выпадках, калі тое ці іншае пытаньне, высоўваемае групай беднаты, у кіруючым органе вырашаецца адмоўна, група беднаты павінна праз тую ўстанову, пры якой яна існуе, перанесьці гэтае пытаньне на абгаварэньне агульнага сходу паляўнічых. Гэта адна форма працы з беднатой у выбарчых органах.

Другая форма—агульныя сходы беднякоў-паляўнічых, якія пэрыядычна павінны склікацца ў маштабе сельсавету, вёскі (там, дзе многа паляўнічых) для разгляду асобных пытаньняў як зьвязаных з працай паляўнічай арганізацыі, так і грамадзкай працай на вёсцы. Сходамі беднаты павінны кіраваць упаўнаважаныя партыйнай альбо камсамольскай ячэйкі. З усёй сур‘ёзнасьцю паўстае пытаньне аб палітычна падрыхтаваных і вытрыманых людзях, якія-б маглі весьці працу з беднатой, але я думаю, што ў паляўнічай каапэрацыі і гэтае пытаньне вырашаецца значна лягчэй, чым па лініі іншых каапэрацыйных аб‘яднаньняў. Толькі трэба ў парадку шэфства прыцягнуць да гэтае працы гарадзкіх паляўнічых, а ў горадзе мы маем значную колькасьць паляўнічых рабочых, сяброў партыі, працаўнікоў цэнтральных, акруговых устаноў і арганізацый, якія пры належнай сувязі з нізавымі зьвеньнямі паляўнічай каапэрацыі шмат чаго могуць зрабіць. **Тамашэўскі.**

# Выправіць клясавую лінію і ўзмоцніць каапэраваньне беднаты.

Паляўнічая каапэрацыя даўно займаецца пытаньнем дапамогі беднякам-паляўнічым. Але гэта дапамога ў большасьці была саматужнай, бяссыстэмнай і нерэальнай, так, напрыклад, Віцебскае таварыства ўжо некалькі гадоў практыкуе дыфэрэнцыраваны пай, але розьніца між паем для бедняка і паем для заможнага да 1928 году раўнялася ўсяго толькі 2 рублям.

Другім спосабам аказаньня дапамогі беднаце быў водпуск у крэдыт рознага паляўнічага тавару, у першую чаргу—аружжа. Тут справа абстаіць яшчэ горш. Для атрыманьня крэдыту патрабаваліся паручыцельствы. Бядняк з вялікай цяжкасьцю знаходзіць гэтыя паручыцельствы.

Толькі з 1928 году, на падставе пастановы Саўнаркому, праўленьне „Белкохотсоюза“ прыняло цэлы шэраг мер да ўпарадкаваньня гэтага вельмі сур'ёзнага і маючага вялікае палітычнае значэньне пытаньня. Гэтыя меры, у асноўным, заключаліся ва ўстанаўленьні адзінакавага для ўсёй сыстэмы „Белкохотсоюза“ дыфэрэнцыраванага паю, ва ўстанаўленьні розных тэрмінаў унясеньня паю, у каапэраваньні беднаты, у арганізацыі кас узаемадапамогі, у кантрактацыі пушных загатовак.

Паглядзім, наколькі істотным аказалася гэта дапамога.

Дыфэрэнцыяцыя паю праведзена больш ці менш здавальняюча. Праўда, для 4 і 5-й катэгорыі можна было-б яшчэ больш павялічыць яго. Тэрміны ўзносу паёў для 2 і 4-й катэгорыі—да 2-х год, для 3-й катэгорыі—да 3-х год і для 5-й катэгорыі без растэрміноўкі таксама адпаведны, толькі для 2-й катэгорыі растэрміноўку трэба павялічыць да 3-х год. Праца па каапэраваньню беднаты праведзена кепска.

Уперад за ўсё праўленьне „Белкохотсоюза“ выпусьціла з сваіх рук ініцыятыву і кіраўніцтва гэтай, вельмі важнай, справай і абмежавалася ў красавіку г. г. толькі абежнікам за № 712, перадаўшы ўсё пытаньне каапэраваньня беднаты ў акруговыя таварыствы. Акруговыя т-вы па-свойму падышлі да гэтага пытаньня. Так, Віцебскае таварыства ўтварыла фонд каапэраваньня беднаты ў 600 руб., г. зн. больш 30% прыбытку, а іншыя таварыствы адлічылі менш 10%, а ў абсалютных лічбах да 100 рублёў. Належыць адзначыць, што да 1928 году нідзе ў сыстэме паляўнічае каапэрацыі Беларусі фондаў каапэраваньня беднаты ня было.

Як-жа выкарыстоўваліся гэтыя фонды? Само праўленьне „Белкохотсоюза“ скрывіла лінію ўраду. Так, артыкул 590, § 9, п. „б“ З. З. і Загадаў Ураду гаворыць: „...Чтобы ссуды за счет фонду кооперирования бедноты выдавались на сроки от 3 до 5 лет“, а ў абежніку праўленьня „Белкохотсоюза“ за № 712 у п. 4 гаворыцца: „...Пазыкі з фонду каапэраваньня беднаты выдаюцца на тэрмін ня больш 2-х год“.

Праўда, ня ўсе акруговыя таварыствы выканалі гэту дырэктыву „Белкохотсоюза“. Так, напрыклад: Віцебскае таварыства з фонду каапэраваньня выдавала пазыкі без паказаньня тэрміну пакрыцьця гэтых пазык.

Кантынгент каапэруемых паказан дакладна, але ўсё-ж дзе-ні-дзе былі спробы парушэньня ўзятай „Белкохотсоюзом“ лініі. Часта працаўнікі з месц скардзяцца, што ім некага каапэраваць. У некаторых акругах, асабліва ў Менскай, ніяк ня могуць знайсьці беднякоў для каапэраваньня і з гэтае прычыны, напрыклад, у Самахвалавіцкім раёне ніводны чалавек не каапэраван. Былі спробы выкарыстаць фонды на другія мэты. Напрыклад, Пухавіцкі раён хацеў купіць за сродкі фонду дом для калектыву.

Частка акруг—Ворша, Полацак і Гомель нават не адказалі на афіцыйнае запытаньне праўленьня „Белкохотсоюза“ аб ходзе каапэраваньня беднаты. Пры такіх умовах кіраўніцтва „Белкохотсоюза“, бязумоўна, будзе скрыўляцца лінія. Адчуваецца недахоп адказнасьці.

Зараз аб істоце каапэраваньня ў нас. У нас прынята сыстэма каапэраваньня беднаты, уведзеная спажывецкай каапэрацыяй. Гэта сыстэма для паляўнічай каапэрацыі зусім не падыходзіць.

Спажывецкая каапэрацыя можа ўзяць любога бедняка, і ён з найвялікшым задавальненьнем і падзякай згодзіцца на каапэраваньне. У нашай-жа каапэрацыі мала знайсьці бедняка. Трэба яшчэ знайсьці такога бедняка, які-б жадаў стаць паляўнічым. У нас у Беларусі паляваньне мае ня толькі прамысловы характар, але і паўпрамысловы. З увядзеньнем прамысловага зьвераводзтва і, асабліва, з разьвядзеньнем трусоў, пытаньне каапэраваньня беднаты будзе вырашацца куды прасьцей. А зараз... а зараз „охота пуще неволи“.

Чаму-ж усё-ткі бядняк ня ідзе ў нашу каапэрацыю? Вядома, растлумачыць толькі адсутнасьцю паляўнічага „палу“ ніяк нельга. Галоўная прычына заключаецца ў тым, што наша каапэраваньне і апошнія мерапрыемствы дапамогі беднаце зьяўляюцца палавінчатымі.

Уперад за ўсё ніякай розьніцы ў каапэраваньні беднаты за кошт фонду і за кошт самога каапэруемага няма. І ў тым і ў іншым выпадку бядняк свой пай уносіць на працягу 2-х год. І больш нічога бедняку мы не даем. Вось тут і зарыта сабака. Для таго, каб быць актыўным членам каапэратыву паляўнічых, трэба мець стрэльбу і сабаку. Каштоўнасьць-жа іх куды большая за пай. Пагэтаму каапэраваньне павінна ісьці менавіта па лініі задавальненьня паляўнічага стрэльбай і сабакай. Такім чынам, пазыка з фонду каапэраваньня павінна быць ня менш 60 руб. і пагашацца за 5—10 год.

Разам з каапэраваньнем неабходна рэарганізаваць сыстэму крэдытаваньня. Пазыкі неабходна даваць, галоўным чынам, беднякам і толькі для набыцьця стрэльб і сабак. Яшчэ лепш будзе, калі пазыкі будуць выдавацца натурай. Сыстэму выдачы пазык пад вэксалі і паручыцельствы трэба адмяніць і ўвесьці рэкамэндацыі, хадайніцтвы камітэтаў сялянскіх, грамадзкіх таварыстваў узаемадапамогі або арганізацый сялянскай беднаты. Процанты налічваць мінімальныя і спаганяць ня ўперад, у момант выдачы пазыкі, а ў тэрміны пагашэньня яе. Разьмер пазык павінен быць рэальны, каб за іх напэўна можна было набыць стрэльбу і сабаку. Тэрміны пагашэньня павінны быць такімі, у якія бядняк, бязумоўна, пагасіць пазыку. Абавязкова практыкаваць пагашэньне пушнінай і іншымі вынікамі паляваньня. Такая сыстэма крэдыту яшчэ больш наблізіць яго да беднаты і зробіць даступным.

**Сьмірноў.**

## Дагавор падпісаны.

Праўленьне „Белкохотсоюза“ ад імя ўсіх паляўнічых Беларусі прыняло выклік на сацыялістычнае спаборніцтва, зроблены Украінскім саюзам паляўнічых. У сваю чаргу праўленьне „Белкохотсоюза“ выклікала на сацыялістычнае спаборніцтва паляўнічую арганізацыю Азэрбайджану.

Між гэтымі паляўнічымі арганізацыямі заключана ўмова. У асноўным яна зводзіцца да наступнага:

**Палітычная работа:** не аслабляць тэмпу сацыялістычнага спаборніцтва.

**Арганізацыйная работа:** палепшаньне абслугоўваньня ўсёй сыстэмы, арганізацыя сельячэек, каапэраваньне беднаты, чыстка шэрагаў паляўнічай каапэрацыі.

**Паляўнічая гаспадарка:** вывучэньне паляўнічай гаспадаркі, падлік фауны, арганізацыя культурных гаспадарак, ахова заказьнікаў, барацьба з драпежнікамі і браканьерствам, падкормка і пэратрымка зьвера і дзічы, падсадка зьвяроў, ахова пералётнай дзічы, загатоўка пушніны, арганізацыя прамысловага зьвераводзтва і, у першую чаргу, разьвядзеньне трусоў, выкананьне пляну пушных загатовак, кантрактацыя пушніны, апрацоўка і гандаль неэкспартным мехам.

**Культасьветная работа:** пастаноўка і ўвязка з агульнай работай, распаўсюджваньне паляўнічай літаратуры, арганізацыя паляўнічых куткоў, стацыянарных і перасовачных бібліятэк, вярбоўка паляўкораў, сьценгазэты, удзел паляўнічых у грамадзкім жыцьці.

**Работа па забесьпячэньню паляўнічых:** зьніжэньне на цэны, памяншэньне накладных выдаткаў, шпаркі зварот тавараў, аднастайная фінансавая справаздачнасьць, поўнае задавальненьне попыту паляўнічага.

**Стралковая справа:** арганізацыя тыраў, стэндаў, асабліва ў вёсцы, патаненьне стралковага спорту, арганізацыя стралковых сэкцый.

**Сабакагадоўля:** арганізацыя сэкцый, выставак, вывадак і спроб; задавальненьне заводзкім матар'ялам.

З пералічаных работ спаборніцтва відаць, што яно павінна выконвацца ня толькі апаратам праўленьня „Белкохотсоюза“, але і ўсімі паляўнічымі, арганізаванымі ў паляўнічую каапэрацыю.

Для правядзеньня ў жыцьцё гэтага дагавору неабходна намеціць цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў. Праўленьне „Белкохотсоюза“ павінна іх даць. Але гэтага мала. Неабходна, каб увесь паляўнічы актыў прыняў самы жывы ўдзел у выкананьні гэтага дагавору. Трэба ўсе нашы недахопы шырока абгаварыць на ўсіх сходах і намеціць практычныя мерапрыемствы—па іх зьнішчэньню.

Трэба памятаць, што найлепшы спосаб абмену думкамі—гэта наш друк. „Паляўнічы Беларусі“ павінен стаць ня толькі застрэльшчыкам, але і кіраўніком і памочнікам у справе практычнага выкананьня дагавору. Гэта „ПБ“ зможа, калі кожны паляўнічы будзе актыўна дапамагаць.

Толькі тады мы зможам выканаць узятыя на сябе абавязнасьці.

У працэсе работы магчымы рознага роду памылкі. Крытыка і самакрытыка павінна будзе дапамагчы выправіць гэтыя памылкі і палепшыць кіраўніцтва і выкананьне.

**Сьмірноў.**

## Рапартуе Барысаў.

Падпісаны з Рэчыцкім калякты вам паляўнічых дагавор на сацыялістычнае спаборніцтва праводзіцца ў жыцьцё. Бюро калектыву растлумачыла паляўнічым значэньне дагавору і тую адказнасьць, якую яны нясуць па гэтаму дагавору.

Шырока разгарнулася барацьба з драпежнікамі, бадзячымі сабакамі, катамі, з браканьерствам. Забіта 34 ваўкі, а па сацыялістычнаму спаборніцтву трэба забіць—50; забіта 200 бадзячых сабак, 6 катоў і значная колькасьць каршуноў.

Барацьба з браканьерствам; прыцягнута да адказнасьці 2 асобы і адабрана 28 стрэльбаў.

Культпраца: арганізавана невялічкая бібліятэчка, удала праведзена падпіска на „Паляўнічы Беларусі“ і збор сродкаў на самалёт.

Каапэраваньне беднаты: фонд у нас выкарыстан поўнасьцю і, апрача таго, самым бюро калектыву паляўнічых было адпушчана 500 руб. на крэдытаваньне па набыцьцю стрэльбаў, хаця гэтая апэрацыя была і цяжкай для бюджэту калектыву.

Добра праходзіць у нашым раёне і чыстка паляўнічых.

Работы ў нас яшчэ непачаты край; трэба працаваць і працаваць.

**Ржэўскі.**

## Сацыялістычнае спаборніцтва ў Шклоўскім калектыве.

У Шклоўскім калектыве паляўнічых сацыялістычнае спаборніцтва пранікае ў паляўнічыя масы. Паляўнічыя выклікаюць адзін аднаго на індывідуальнае спаборніцтва. Так, паляўнічы Латушка П. З. адстраляў драпежнікаў на 195 балоў і выклікаў паляўнічых: Марыненка А. Я., Кабыша І. П. і Сідорніна Я. Я.

На сходзе паляўнічых, які адбыўся 29/IX г. г. на трэці заём індустрыялізацыі падпісалася 22 паляўнічых па 5 руб. кожны і ўнесьлі зараз-жа 35 руб. Тут-жа пастанавілі здаваць пушніну выключна ў саюз паляўнічых; кожнаму паляўнічаму сачыць за захаваньнем тэрмінаў паляваньня, выяўляць браканьераў і весьці барацьбу з драпежнікамі і бадзячымі сабакамі ды катамі.—Падпіска на самалёт праведзена на 100%,

**Уп.**

# ПАЛЯЎНІЧАЯ ГАСПАДАРКА

## Першы год паляўнічай пяцігодкі сарваны.

ЗАРАЗ ужо ўсім стала вядома, што пры такім шпаркім тэмпе будаўніцтва сацыялістычнай гаспадаркі, які мы мелі ў першы год пяцігодкі, мы пяцігадовы плян будаўніцтва выканаем за чатыры гады.

Зусім іншае мы маем у справе будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі. Тут замест зьмяншэньня тэрмінаў выкананьня пляну пры такім тэмпе, які мы мелі ў першы год пяцігодкі, мы ня толькі за поўныя 5 год, а навагі за 8 нічога ня зробім.

Першы год будоўлі паляўнічай гаспадаркі па 5-цігадоваму пляну сарваны. Аб гэтым мы сёньня павінны заявіць ва ўсёўслыханьне, павінны сёньня біць трывогу, каб паставіць на баявую ногу нашы паляўнічыя арганізацыі і ня толькі абмежавацца фіксаваньнем фактаў, што паляўнічая каапэрацыя застался „в стороне от большой дороги“, а намеціць канкрэтныя мерапрыемствы будаўніцтва на 1929-30 год з навярстаньнем прапушчанага і разглядзець справу ў бок прыцягненьня да адказнасьці тых, хто перашкаджаў, хто не жадаў будаваць.

Яшчэ з пачатку гэтага году „Паляўнічы Беларусі“ ў артыкуле „Жарты Наркамзему“ пісаў, што 5-цігадовы плян буданіцтва паляўнічай гаспадаркі, дзякуючы халатнасьці Наркамзему, стаіць пад пагрозай зрыву. Суадпаведныя органы цікавіліся гэтым і прымусілі Наркамзем паскорыць афармленьне пляну 5-цігодкі і, нарэшце, у чэрвені месяцы гэтага году 5-цігадовы плян прайшоў усе інстанцыі і павінен быў пачаць выконвацца.

Загучэлі тэлефоны: „Белкохотсоюз“ звоніць Наркамгандлю, Наркамгандаль—„Белкохотсоюзу“, пасылаюцца ўсім акругам лісты, адносіны, дырэктывы і... і тэлефонамі ды перапіскамі справа кончылася.

Месцы не раскачаліся, а цэнтр сваячасова не рэагаваў.

Для прыкладу возьмем такую галіну паляўнічай гаспадаркі, як заказьнікі. Па кантрольных лічбах 1-га году пяцігодкі па БССР намечана было арганізаваць 48 заказьнікаў, а арганізавана толькі 9 ці 18,36%.

Па прамысловай зьверагадоўлі было намечана арганізаваць 3 гадавальнікі (чорна-бурых лісіц, трусоў і баброў) і ніводзін не арганізаван. Дапусьцім, што цяжка было набыць чорна-бурую лісіцу, ня так лёгка і бабровы гадавальнік арганізаваць, але, „крольчатник“, які так было лёгка арганізаваць, дзе ўжо ёсьць нямала вопыту ў гэтай рабоце, дык і ён не арганізаваны.

З афармленьнем новых заказьнікаў справа абстаіць, з рук вон, кепска. Існуючая да гэтага часу сыстэма афармленьня заказьнікаў — бюрократычная, так напрыклад: афармленьне заказьнікаў павінна прайсьці 8 інстанцый (райбюро, лясьніцтва, РВК, акруговае таварыства, АКРЗА, АВК, „Белкохотсоюз“ і Наркамзем).

Бязумоўна, што пры такім становішчы, пры такой бюрократычнай сыстэме афармленьня заказьнікаў—спраза афармленьньня новых заказьнікаў—будзе стаяць на мертвым месцы. Такая бюрократычная сыстэма павінна быць напалову зьменшана. Месцам трэба даць больш самастойнасьці ў гэтай справе.

Ня лепш абстаіць у нас справа і з каапэраваньнем беднаты. Кантрольныя лічбы каапэраваньня ня выкананы.

Хто вінават у зрыве першага году пяцігодкі?

Вінаваты акруговыя праўленьні, якія не прадстаўлялі зьвестак, вінаваты „Белкохотсоюз“, які захоплен гандлем, вінават Наркамгандлю, які яшчэ і па гэты час цягне справу фінансаваньня, вінават і Наркамзем, які не зьяўляўся гаспадаром паляўнічых угодзьдзяў БССР. Дамоўленасьці паміж усімі гэтымі ўстановамі па пытаньню буданіцтва паляўнічай гаспадаркі няма яшчэ па гэты час.

Нескарыстаныя крэдыты па Дзяржбюджэту першага году будаўніцтва фінорганамі ўжо закрыты. Такім чынам адзін год ужо выпаў. Зараз пачаўся новы гаспадарчы год. З 1 кастрычніка павінна было пачацца фінансаваньне, але-ж і тут мы маем ужо зрыў. Акруговыя праўленьні працягваюць супраціўляцца ў прадстаўленьні зьвестак. Таму ня дзіва, што ўжо ў мінулых трох месяцах гэтага году практычнага нічога ня зроблена. Маўчаць акруговыя таварыствы, нічога ня робяць і не жадаюць рабіць зямельныя органы на мясцох.

Пры такім становішчы, пры такіх адносінах да справы (а аб тым, што зараз яшчэ няма ніякага пералому, сьведчыць становішча на сёньнешні дзень) такі-ж лёс будзе і з другім годам будаўніцтва.

Так далей працягвацца ня можа. Трэба, нарэшце, узяцца сур'ёзна за працу па выкананьню пяцігодкі. Людзі, якія перашкаджаюць буданіцтву, людзі, якія не жадаюць працаваць і надалей, павінны быць зьняты з працы і аддадзены пад суд за яўны сабатаж, за яўны падрыў сацыялістычнага будаўніцтва.

Яшчэ і яшчэ раз трэба кожнаму кіраўніку паляўнічай каапэрацыі ўявіць сабе важнасьць гэтага будаўніцтва. Ужо пара нам ад гандлёвай дзейнасьці перайсьці да гаспадарча-гандлёвай. Ужо пара паляўнічай каапэрацыі мець пад сабой цьвёрдую эканамічнаю базу, цьвёрды грунт. Ужо пара, каб каапэраваная маса адчувала, што паляўнічая каапэрацыя нешта робіць рэальнае, што і яна, як і іншыя сыстэмы каапэрацыі, удзельнічае ў будаўніцтве сацыялістычнае гаспадаркі.

**Міх. Шмідт.**

# Да пытаньня аб рэарганізацыі паляўнічай гаспадаркі.

*(У парадку абгаварэньня).*

РОЛЯ паляўнічай гаспадаркі ў эканоміцы нашай рэспублікі характарызуецца наступнымі данымі: гадавы экспорт пушніны займае віднае месца ў нашым бюджэце. Калі да гэтага дадаць яшчэ неэкспартуемую частку пушніны і мяса, як зайцы, птушкі і г. д., дык яшчэ больш павялічваецца яе роля.

Ужо гэта адно гаворыць за тое, што мы павінны зьвярнуць на паляўнічую гаспадарку грамадзкую думку і паглядзець, як эксплёатуецца прырода, на які час хопіць яе багацьця, які гаспадарчы падыход існуе ў практыцы вядзеньня паляўнічае гаспадаркі? Перад намі матар'ялы Ўсебеларускага зьезду лясных спэцыялістых у красавіку месяцы 1929 году.

Спынімся на пытаньні дабычы асноўных відаў экспортнай пушніны—лісіцы і вавёркі. З аднэй тысячы гэктараў лесу ў Беларусі дабываецца ў сярэднім 4 лісіцы, а на поўначы РСФСР, у краі больш багатым пушным зьверам, толькі адна лісіца з 14 тысяч гэктараў (1910—1913 г.). Выходзіць, што лічба дабываньня ў БССР лісіцы перавышае ў 56 разоў за РСФСР. У адносінах-жа да вавёркі даныя Дзяржгандбелу за 1926-27 г. паказваюць, што загатоўкі яе ў БССР перавышаюць у 13 разоў больш, чым у б. Архангельскай губэрні.

Некаторыя могуць падумаць, што на поўначы РСФСР ня поўнасьцю адстрэльваецца прыплод пушных зьвяроў. Аднак, статыстыка дабычы пушніны паказвае, што і там дабыча яе паменшылася за апошнія 60 год на 50%.

Загатоўкі некаторых відаў пушніны ў 1928 годзе па БССР паказваюць зьніжэньне, параўнаўча з 1927 годам на 50%. Апошні факт сьведчыць аб тым, што ў нас няма ніякага гаспадарчага падыходу і што з кожным годам асноўны фонд паляўнічай гаспадаркі зьнішчаецца. Усе мы, паляўнічыя—жывыя сьведкі таму, што некаторым паасобным відам паляўнічай фауны пагражае поўнае выміраньне.

Вельмі часта чуеш ад паляўнічых, асабліва ў малалесістых раёнах:—„Няма за чым паляваць. Няма зьвера". І сапраўды, няма. І няма яе, ня гледзячы на забарону вясеньняга паляваньня, скарачэньне тэрмінаў, забарону адстрэлу некаторых зьвяроў і птушак зусім і на паступовае павялічэньне плошч пад заказьнікі. Вядома, забарона вясеньняга паляваньня мае вельмі вялікае значэньне ў павялічэньні прыплоду дзічы, і мы на гэтым спыняцца ня будзем, бо ўжо шмат гаварылася ў мінулых нумарох „Паляўнічы Беларусі". Але ўсё-ж такі гэта мерапрыемства ня спыніла і ня можа спыніць паменшэньня з кожным годам дзічы і зьвера. Таксама не маглі даць станоўчых вынікаў і іншыя мерапрыемствы, як скарачэньне тэрмінаў паляваньня, заказьнікі, часовая забарона адстрэлу некаторых зьвяроў і птушак і г. д.

Калі да пералічаных вышэй мерапрыемстваў па рэгуляваньню паляўнічае гаспадаркі дадаць вольнае паляваньне ў дазволеныя тэрміны каапэраваных паляўнічых і на вольных угодзьдзях, то мы будзем мець цалкам уражаньне аб сыстэме вядзеньня паляўнічай гаспадаркі.

У дазволены для паляваньня час у вызначанае ўгодзьдзе зьбіраюцца паляўнічыя з розных канцоў БССР; кожнаму хочацца забіць, і забіць—як мага больш, ня лічачыся з тым, што тут застаецца і дзе яму давядзецца паляваць заўтра. У раёне Пухавічы—Талька, акрамя мясцовых паляўнічых часта бачым паляўнічых з Менску, з Бабруйску. Палююць па 10—15 асоб разам, аблавамі. Снуюць ва ўгодзьдзях па 2—3 дні з тым, каб ня толькі забіць, а нават і ня ўбачыць якога-небудзь зайчыка, бо зьвера вельмі мала. У другі раз паляваньне пераносіцца куды-небудзь у іншае месца, і так робіцца датуль, пакуль ня ўпэўняцца, што „ехаць больш некуды". У малалесістых раёнах вясковы паляўнічы стараецца як мага далей адыйсьці ад месца жыцьця, каб знайсьці там зьвера.

А хто падумаў на месцы аб тым, якім мерапрыемствам павялічыць запасы паляўнічых аб'ектаў? Хто і што зрабіў? Ці маем мы мерапрыемствы, накіраваныя на аднаўленьне паляўнічай гаспадаркі? Ці могуць мець гэтыя мерапрыемствы станоўчыя вынікі? Згадзімся на гадзіну з тым, што якая-небудзь сельячэйка паляўнічых—бедната—у вёсцы, або гурток з рабочых—у горадзе—задаліся мэтай весьці на якім-небудзь угодзьдзі правідловую паляўнічую гаспадарку з усімі інтэнсыўнымі мерапрыемствамі, як ахова яе, падсеў кармавых траў, зьнішчэньне драпежнікаў, барацьба з браканьерствам, падсадка дзічы, падлік і ўстанаўленьне нормы адстрэлу і г. д., то і то яны рабіць гэтага ня могуць пры сыстэме вольнага паляваньня, бо іх праца і сродкі будуць выкарыстаны тымі, хто ня цікавіўся гэтай справай і не рабіў ніякага ўкладаньня ў гэтую гаспадарку.

З гэтае прычыны праяўленьні ініцыятывы ў нас на мясцох па аднаўленьню паляўнічае гаспадаркі, накіраваньню яе па шляху інтэнсіфікацыі яе мы ня бачым. А без прыцягненьня гэтых мас аднавіць паляўнічую гаспадарку ні „Белкохотсоюз", ні НКЗ ня зможа. Але, каб уцягнуць паляўнічыя масы ў гэтую працу, трэба раз і назаўсёды адмовіцца ад старой сыстэмы вольнага і неабмежаванага, безадказнага паляваньня. А каб не зьмяншаць штогод экспорт пушніны, каб забясьпечваць унутраны рынак прадметамі паляваньня, трэба ўстанавіць адказнасьць за становішча асноўнага фонду паляўнічае гаспадаркі ў кожным паляўнічым угодзьдзі, г. зн.—хто палюе, той і нясе адказнасьць за захаваньне асноўнага фонду зьверу і птушкі. Разьвіцьцё пушной зьверагадоўлі, якое намечана пэрспэктыўным плянам, павінна накіроўвацца на ўзмацненьне той валюты, якую мы маем ад натуральнай паляўнічай гаспадаркі.

Аб гэтых пытаньнях пара падумаць сур'ёзна. Кацінца па лініі найменшага супраціўленьня, весьці паляўнічую гаспадарку па існуючай старой сыстэме мы ня можам. Трэба адмовіцца ад кансэрватызму і пайсьці па шляху арганізацыі прыпісных паляўнічых гаспадарак,—г. зн. пачаць перадачу па ўмовах на вядомы тэрмін выключнага права паляваньня на данай тэрыторыі вызначанай групы паляўнічых, праз існуючыя каапэрацыйныя аб'яднаньні (гарадзкія гурткі паляўнічых, сельячэйкі і г. д.), якія і павінны несьці ня толькі маральную, але і матар'яльную

адказнасьць за становішча асноўнага фонду ў перададзеных ім паляўнічых угодзьдзях.

Прыпіска паляўнічых угодзьдзяў выклікае ініцыятыву паляўнічых мас па правядзеньню інтэнсыўных мерапрыемстваў па падняцьцю вытворчасьці паляўнічых угодзьдзяў—чаго да апошняга часу ў нас яшчэ няма.

Прыпіска пакладзе канец існуючаму браканьерству неарганізаваных паляўнічых, драпежніцтву некаторых паасобных паляўнікоў і дасьць мажлівасьць гаспадарча калектывізаваць паляўнічыя масы і накіруе іх дзейнасьць па шляху сацыялістычнага будаўніцтва. Зразумела, што пры ўкладаньні ў гаспадарку калектыўных сродкаў і працы, дабыча павінна быць таксама калектыўнай.

Прыпіска паляўнічых угодзьдзяў выклікае зацікаўленасьць паляваньнем і паляўнічай гаспадаркай нашых камсамольцаў, асоавіяхімаўскіх і вайсковых арганізацый і паляваньне будзе служыць ня толькі як дабыча зьвера і птушкі, а і спортам.

Супроць арганізацыі паляўнічай гаспадаркі па сыстэме прыпісных угодзьдзяў могуць выступаць толькі некаторыя гарадзкія паляўнічыя, якія баяцца таго, што ім недзе будзе паляваць.

На пытаньне рэарганізацыі паляўнічай гаспадаркі павінна быць зьвернута ўвага паляўнічых мас, зацікаўленых установаў і ўсёй грамадзкасьці.

У заключэньне скажам, што гэты артыкул „не адчыняе Амэрыкі“, бо прыпіска паляўнічых угодзьдзяў шырока практыкуецца ў сучасны момант у РСФСР і дае станоўчыя вынікі. Ва ўмовах БССР яна чакае поўнага ажыцьцяўленьня.

**Ю. А. Дзярыба.**

---

## Арганізуем фонд аховы шэрай курапаткі.

Ужо трэці год падрад на старонках часопісі „Паляўнічы Беларусі“ зьмяшчаюцца артыкулы паляўнічых, што колькасьць шэрай курапаткі з кожным годам зьмяншаецца, што без забароны адстрэлу ці спэцыяльных мер аховы гэтая птушка і прыемная для паляўнічага дзічына перастане існаваць.

Ня глядзечы на гэта, а таксама на вопыт мінулае студзёнае зімы, якая катастрафічна зьменшыла лік курапаткі, праўленьне „Белкохотсоюза“ і амаль усе праўленьні акруговых таварыстваў і нават VIII Усебеларускі сход належнай ўвагі на ахову апошняй не зьвярнулі.

Прышоў новы сэзон паляваньня і зьнішчаецца астача таго, што выратавалася ад зімы і змагла выпладзіцца.

Некаторыя з паляўнічых-аматараў паляваньня на шэрых курапатак добраахвотна адмовіліся ад удзелу ў гэтым дабіваньні, але-ж іх адзінкі, і наўрад ці паможа іх добры ўчынак захаваньню курапаткі.

Трэба ўжыць штось больш радыкальнае.

Гаварыць цяпер пра забарону адстрэлу больш чымся позна, бо ўжо скончыўся сэзон паляваньня на гэты від курапаткі. Можна гаварыць толькі пра тое, каб у надыходзячую зіму захаваць тое, што не падзе ад выстралаў.

Па думцы некаторых паляўнічых гэта можна зрабіць так:

Трэба, каб паляўнічыя ячэйкі— раённыя бюро, сельскія ячэйкі і паасобныя гурткі паляўнічых з вёскі і гораду паставілі мэтай захаваць у гэтую зіму тую ці іншую колькасьць шэрай курапаткі спосабам падкормкі апошняй на волі ці ў няволі і нагляду за тым, каб ня нішчылі яе ў гумнах.

Паколькі без грашовай зацікаўленасьці рэдка хто захоча займацца падкормкай —трэба ўстанавіць выдачу прэмій тым паляўнічым і не-паляўнічым, якія зоймуцца гэтай справай.

Для выдачы прэмій скласьці фонд з сродкаў: а) сабраных сярод паляўнічых, галоўным чынам,— аматараў паляваньня з легашамі і б) з сродкаў, якія выдзеляць на гэта акруговыя праўленьні.

Прэміі можна вызначыць у 50 кап. за кожную выхаваную да вясны курапатку. Столькі-ж можна плаціць за жывых курапатак тым, хто не захоча сам гадаваць і перадасьць у гурток паляўнічых ці ў бюро калектыву.

Справа аховы курапаткі ў гэтым парадку павінна быць праведзена па сацыялістычнаму спаборніцтву акруговых праўленьняў, раённых бюро і бюро сельскіх ячэек.

Грошы павінны зьбірацца пры перарэгістрацыі ў дабраахвотным парадку.

Праўленьні акруговых таварыстваў павінны неадкладна даць мінімальныя колькасныя заданьні па раёнах, а раёныя бюро—па сельскіх ячэйках.

Разам з заданьнямі аб колькасьці падлягаючай абавязковаму захаваньню курапаткі трэба ўказаць, колькі адпускаецца грошай акруговымі праўленьнямі, колькі трэба сабраць паміж паляўнічымі ў раёне.

Толькі такім спосабам можна затрымаць зьнішчэньне шэрай курапаткі і дапамагчы яе памнажэньню.

Праўленьне „Белкохотсоюза“ павінна ўзяць на сябе ініцыятыву ў гэтай справе і даць частку грошай за лік вызначаных па пляну на адбудову паляўнічай гаспадаркі ў гэтым годзе.

**Я. Белічанскі.**

---

## У фонд аховы шэрай курапаткі.

Згаджаюся з думкай паляўнічых, выказанай у артыкуле т. Я. Белічанскага адносна спосабу аховы шэрай курапаткі, уношу ў фонд аховы яе пры Менскім раённым калектыве паляўнічых 2 руб. і выклікаю прыняць удзел у складаньні гэтага фонду менскіх паляўнічых т. т. Фядзюшына, Данькова, Крыцца, Лісоўскага, Хлеўнікава, Тамашэўскага, Жылінскага, Федасеенка, Сьмірнова, Багданава, Лермана, Качароўскага, Сабалеўскага, Зайко, Грыбоўскага, Коца, Цэлеша, Міронава, Кухту і Шопялевіча.

**І. Хадаронак.**

Уношу па выкліку І. Хадаронка 2 руб. і выклікаю на такую-ж суму: Змудзінскага, Шмідта, Пійля, Лагутчыка, Панова, Гажэльскага, Цьвірка, Шыкаўка, і Дубовіка.

**М. Цэлеш.**

## Чорнавухая кумачка.

*(Апавяданьне).*

ЯСЯДЗЕЎ у вакна і чакаў Вікенціча, з якім я ўмовіўся ў поўдзень, сустрэўшы яго ў горадзе, заехаць за мной на паляваньне.

Чыкалі на сьценцы „ходзікі“, стрэлкі адна адну абганялі па кругу, пераскаквалі з лічбы на лічбу і паказвалі ўжо чатыры, а Вікенціча ўсё няма.

Жонка капаецца каля печкі з абедам і падтрунівае нада мной, што ня прыедзе Вікенціч.

— Куды ён табе паедзе ў такую непагадзь? Абы швэндацца па полю, „а толку з гэтага—ні на іголку“,—з пэсымізмам заключае яна.

Што надвор'е кепскае—гэта пэўна, і я не спрачаюся, а што жонкі паляўнічых пэсымістычна глядзяць на паляваньне—гэта—малы, і той ведае.

Дзеці гуляюць у „зайчыка“ з люстэркай на сонцы і прыслухоўваюцца да слоў жонкі. Яны чуюць, што я сабраўся на паляваньне, абкружылі мяне і пытаюцца аб рознай дробязі.

— Татка, ты прывязеш мне варону?—пытаецца старэйшы і глядзіць мне ў вочы, нібы хоча зараней ведаць, ці прывязу я яму варону.

— Не, даражэнькі, я варон не страляю, ды іх і не ядуць,—з гордасьцю адказваю я, а сам сазнаю, што сказаў няпраўду, як і ўсякі паляўнічы.

Хлопчык яшчэ нешта пытаецца ў мяне, але, заняты сваімі думкамі, я яму не адказваю. У маіх вушах ужо зьвініць яхканьне добрага ганчака—і за плячмі адчуваецца прыемная цяжкасьць прытарочанага да торбы касавокага шарака, раптам перавернутага ўдалым стрэлам маёй цэнтралкі на перамычцы.

Тады малы зразумеў маё задуманьне і адыйшоў ад мяне маленькімі скачкамі, уяўляючы сабой зайчыка.

Ужо пачырванеў захад, сонца схавалася ў сьвінцовых хмарах і села за ваколічным лесам, а Вікенціча ўсё няма. Сталі красьціся думкі сумненьня:— А можа і ня прыедзе. Раптам у двары закаціўся „Дружок“, а затым і сам Вікенціч вырас перад вакном.

— Ну гатоў, сабраўся?—як з трубы прагучэў Ляксандра Вікенціч.—Я пайду прыгатую месца на падводзе,— і зьнік за калідкай.

Разважаць было некалі. Я схапіў шапку, паліто, патранташ, зачапіўся за нейкія анучы, наступіў на рукаў паліто і паваліўся. Схапіў стрэльбу і зьнік за дзьвярмі.

Жонка не ўцярпела, каб „не загнаць шпільку“ і я пачуў яе голас—„вар'ят апантаны“.

Для мяне гэта не сакрэт і я, не зьвяртаючы ўвагі на такую „абіду“, валюся на цялегу да Вікенціча.

* * *

Доўга ехалі гразкімі вуліцамі гораду. Але адразу перад намі раскрыўся прастор поля, пахнула сьвежым паветрам, расхінуліся грудзі, смаканулі лекавага эфіру і ажылі мускулы—жыцьцё забіла ключом. Думак гарадзкіх, як ня было. Уляцелі яны з галавы і рассыпаліся дробнымі часткамі ў паветры па полю, зьніклі. Люблю я прыроду—крыніцу здароўя.

Мы ехалі шляхам. Міналі падводу за падводай. Горад шумеў, тросься ў нейкай ліхаманцы і ўцякаў усё далей і далей. Яго сотні вачэй з цемры глядзелі ў прастор. Мы скора скаціліся за курган і патухлі апошнія агні.

— А, гэта ты, Сабакевіч?—крычыць жонка Вікенціча п'янаму, які зьлез з апошняй падводы і нявернай паходкай набліжаўся да нас.—Гэта ты падавіў з сабакамі маіх індзюкоў, замест цецярукоў? Эх, паляўнічы! Курашчуп ты, а не паляўнічы,—гучыць яе голас пад вухам і гіне ў сьвінцовай далі туманаў васеньняй начы.

— А каб табе баба папалася ў лесе, дык ты-б і яе замест мядзьведзя ўкакошыў?—сьмяецца Вікенціха.

П'яны варочае непаслухмяным языком, нешта бубніць сабе ў вус, як з гумы качаецца ва ўсе бакі і валіцца на стрэльбы.

— Куды ты на ногі, ай-й, на стрэльбы!—крычыць яна зноў.

Штурчок у бок і ён плёхаецца ў калдобіне, падымаецца, злуе і ўходзіць на сваю падводу.

Павярнулі направа.

— Гэтым лесам праедзем кілёмэтры паўтары, а там пойдзе сухая дарога,—гаворыць Вікенціч.

Мы ўехалі ў лес. Чорнай істужкай уецца дарога. Лес дрэмле. Сасонкі, як струны, стаяць у задуменьні. Ні гуку—ні стуку. Цішыню толькі будзіць скрып калёс. Яны скачуць з кораня на корань, з калдобіны ў калдобіну і кідаюць нас у бакі.

У перадку, як гарбуз, сядзіць Вікенціч на набітым сенам мяшку і кіруе канём. Я зайздрошчу Вікенцічу. Маўклівая завісьць гарыць у вачох і жонкі яго. Мулка, і яна то падскаквае, то валіцца на бок і ўздыхае. Яе косы вылезьлі з-пад хусткі, распасьцерліся па плячох як кужаль і гараць серабром, а месяц гуляе па вярхушках сасонак і кідае галубыя праменьні.

Мы выехалі ў поле.

Вікенціч паказаў мелава-белы будынак на далёкім кургане і сказаў:

— От там наша хата. Хутка будзем і дома.

Але мне не хацелася расставацца з срэбрам начы, з яе харасьцвом, з цішынёй. Гаварыць не хацелася мне. Думкі зьбіраліся ў клубок і плылі самі па сабе. Навакол дарогі ў лагчыне, на некальki мэтраў угару ўздымаліся абросшыя лесам курганы. Недзе пад імі каціўся ручэй і маніў, чараваў сваім шопатам-пералівам студзёнай крынічнай вады—сваёй песьняй вякоў. На краю кургана топаль з дубам стаялі, шапталі пра студзёныя ночы зімы і адзеньнем залатым усьцілалі зямлю.

Курганы, курганы і курганы! Глядзіш не наглядзішся.

Я гатоў усю ноч прастаяць у іх ног пад дубам, слухаць казкі яго; я гатоў зьліцца з пералівам руч-

ча; як малінавы тапалёў ліст дрыжэць я гатоў усю ноч; сабраць птушак і зьвяроў гатоў я навакол сябе, сказаць ім пра жыцьцё дарагое—выказаць радасьць сваю; зьліцца з прыродай, растаць, разьляцецца на дробныя часткі ў паветры.

Няма дзікара! Прапаў паляўнічы!

— Вось і даехалі,—сказаў Вікенціч і парваў мае думкі.—Зараз паглядзім майго „Тура"—каханца, і, адпрагаючы каня, стаў хваліць свайго ганчака.

Мы ўвайшлі ў хату. З-пад стала вылез сабака і стаў лашчыцца да гаспадара.

— Ну, здароў, „Тур". Дай лапу!

Тур падаў лапу, скакнуў на грудзі гаспадару, піскнуў, абыйшоў навакол мяне, з недавер'ем абнюхаў і схаваўся пад стол.

* * *

— Ну, пара ўжо ўставаць!—гукаў Вікенціч і штурхаў мяне ў бок.

Я апрануўся і вышаў на двор. Сонца краем лізнула прастор, засьмяялася на ваколічным лесе, паднялося вышэй і паслала праменьні ў вакно. Недзе каркнула сойка. Адгукнуўся пятух. Сабака брахнуў. Дзень уступіў у правы.

Мы вышлі.

— Пара і сабак адвязаць!—зьвярнуўся Вікенціч да суседа і адвязаў „Тура". Той таксама пусьціў свой смычок.

— Уха-а! У-ха-ха-а!—падзадорвалі сабак паляўнічыя, а ім рэха паўтарала ў ваколічным лесе.

— Эх, жыцьцё дарагое!—Вось, бывала, едзеш так паўзлесу, вядзеш свой полк, вараны пад табой дрыжыць, раптам з лесу разьведчык і рапартуе:—„Таварыш камандзір! Белыя распаложаны там-та за лесам у такім-та напрамку".—Ну і пашла пісаць губэрня. Носішся на вараным перад цэп'ю гусараў, аж зямля дрыжыць. Даеш загады—і ні страху, ні стуку ня чуеш. А там глядзіш, які-небудзь эскадрон возьмеш у палон,—апавядае мне Вікенціч.—А от на паляваньні не хапае вытрымкі выцэліць ліса—абавязкова прамажу і ўпушчу зьвера. Кепскі з мяне паляўнічы! Гэта я толькі з табой пайшоў, ды і то ўжо нага разбалелася—разьбіта яна ў ступні.

Мы разгаманіліся і не заўважылі, як падыйшлі да нейкай вёскі, раскіданай па адной хаце ў лагчыне. Адтуль да нас далучылася некалькі паляўнічых.

— Яшчэ ня ўсьпеў купіць сучку, а хвост ужо вон?—зьвярнуўся Вікенціч да аднаго з іх, ішоўшага з сабакам без хваста англа-руска-дваранскай крыві.

— А, каб яе ваўкі залупілі! Ад ног не адаб'еш, дык я і „прышчаміў" ёй хвост!—адказаў паляўнічы.

Англа-руска-дваранская кроў усёроўна круцілася каля ног.

— Ну, а як—трохі ганяе?—запытаўся я паляўнічага.

— Як што—сьвіней ад карыта добра адганяе.

* * *

Мы ішлі лесам. Я стаў ужо сумнявацца аб выніках нашае хадзьбы па курганах ды пралесках. Сонца ўжо паднялося высока і трохі прыпякала па-вясеньняму ў плечы. Гадзіньнік паказваў дзесяць, а сабакі яшчэ не паднялі ніводнага зьвера. Раптам зьлева, як падстрэлены, закаціўся гарачым яхканьнем „Тур". Падхапілі іншыя і нармальны гон зазьвінеў па лесе. Галасы ганчакоў зьліліся ў адзін акорд і паплылі па вярхушках сасонак.

Я ішоў паўзлесу. Гон павярнуў к полю і хутка клубком выкаціўся касавокі шарак і пайшоў ня стрэленым праз курган. Сабакі не адставалі, а „Тур" амаль што сядзеў на „хвасьце". Гон цягнуўся ня доўга, бо заяц пайшоў балотам, па вадзе, і сабакі скалоліся і вярнуліся.

Мы перасеклі яловы гушчар дарогай і занялі палоску дробналесься з сасняку. Усё прытаілася, здаецца, падсьцерагаючы зьвера. Толькі трэсьне сучок пад нагой у сабакі і зноў ціха. Так працягнулася з паўгадзіны.

І зноў закаціўся гарачым яхканьнем „Тур". І зноў падхапілі апошнія і загаласіў, засьмяяўся вар'яцкім сьмехам лес. Гон павярнуў управа, у гушчар.—Э-э-э, гэта значыць ня заяц, гэта ліс,—падумаў я і па магчымасьці схаваўся за елкай.

А гон усё льлецца. Вось ён зрабіў адзін круг, павярнуў назад, ідзе на мяне.

Штосьці труснула ззаду. Я абярнуўся і ў гэту хвіліну ліс скокнуў у гушчар. Трэснуў два разы „Губэртус", дымам пакрыўся куст, пад якім застаўся ліс, накрыўшыся пушыстым хвастом. **М. Я. Цэляш.**

---

**Валеры Маракоў.**

* * *

*На гэтых пройдзеных шляхох*
*Ня мала знойдзена*
*Й здабыта*
*І на трынаццаты парог*
*Узыходзім,*
*Сонцам апавіты.*
*О, родны край,*
*Твае палі*
*Яшчэ аб сьветлым так ня сьнілі.*
*Тут буры творчыя*
*Прайшлі,*
*Імкненьнем сэрца*
*Запалілі!..*
*На новы шлях*
*І ў новы дзень*
*Вядзе нас творчая імклівасьць.*
*Тут горды дух агнём надзей*
*Палае моцным калактывам.*

*Тут*
*Усё аджытае на дно*
*Сучаснасьць наша пахавала*
*З паганскім мітам*
*Калдуноў,*
*З азёрнай казкаю*
*Русалак.*
*Каб больш на сьвеце ня было*
*Ні калдуноў*
*І ні вясталак,*
*Асушым твань старых балот,*
*Дзе карагод вялі*
*Русалкі.*
*Збудуем новы сьветлы дзень,*
*Дзе новы творца-чалавек*
*Дарогай простаю ідзе*
*Без надламаных*
*І калек...*

*Збудуем творчы наш палац*
*І ў вокны кінем*
*Промні сонца,*
*Каб нашым будучым палаць*
*І сьніць аб будучай*
*Старонцы...*
*Дзе пад праменьнямі вясны*
*Да сьвету пройдуць*
*Міліёны,*
*І аб паганстве успамін*
*Сатрэцца трактарнай калёнай.*
*О, родны край,*
*Твае палі*
*Яшчэ аб сьветлым так ня сьнілі.*
*Тут*
*Буры творчыя прайшлі,*
*Імкненьнем сэрца запалілі!*

Менск, 1929 г.

# В декабре.

НАЧАВ зимний охотничий сезон в районе Уболотья, мы в начале декабря, быстрым ходом двинулись в северную часть округа и скоро достигли первых отрогов громадного лесного массива.

Начался период морозов.

Проникнуть в глубь дико-пустынных окрестностей пока не представлялось возможным. Добычливость наших, теперь редких, охот упала до минимума. Возлагая очень большие надежды на будущее, мы терпеливо ждали оттепелей и порош. Все эти дни и ночи на лесной, заброшенной даче были прожиты тихо и пожалуй однообразно.

Дни проходили мглисто-неясными, однотонными тенями. В голубой прозрачности предвечерий на западе в пурпуре облаков показывалось на миг огромной величины, перемерзшее солнце и тогда снежная даль холмистой пустыни озарялась ярко-фиолетовым блеском неисчислимых точек.

В сумерках, тусклыми полотнами лежали поляны. Тончайший ажур осиновых рощиц казался вытканным из бледно-бледно зеленого эфира.

К полночи, в лимонных к морозу кругах всходила от Заозерья и плыла над увалами оранжевая луна.

И неизменно, ночь в ночь, в предчувствии „волчьих свадьб“, выли долго и нудно, по загуменьям потерянных в суходолах деревень, страшно голодные злобные псы.

Бледно-розовыми, в совершеннейшей тишине, приходили рассветы...

* * *

— Конец!—сказал Игнат по поводу надоевших морозов.

Об‘ективная оценка всего многообразья, вдруг представившихся возможностей, была логическим переходом от чувства несказанной радости, порожденного созерцанием прекрасной пороши.

Перламутрово-неяркое висло низко над полевой равнинностью декабрьское небо. Блеклые тоны тощих пейзажей тонули в туманах. Нарождался, в безветрии, тусклоликий, в меру морозный, будний денек.

Быстро собрав охотничье снаряжение мы пошли. Мы застрелили несколько зайцев. Курчавые „ремни“ их спин были блестящи. Последним, на мушку Игнатовой „шомполки“, попал маленький восхитительный белячек. Для первого раза это было совсем недурно.

В затишьи одной из многочисленных лощинок мы остановились и, покурив, решили взять направление в сторону исходного пункта нашего движения.

К моменту угасания дня мы оказались в окружении знакомых мест.

Значительно левее боровой гряды, мы пересекли поляну, бледно отражавшую яркоцветные тоны заката и, вскоре, скрылись в густых зарослях осиновых и ольховых молодняков, в надежде наткнуться на рябчиков.

Ельники густо окаймляли большие пространства, занятые логами. Вершины высоких, редко стоящих деревьев, четко выделялись на фоне небосклона. Зеленая полоса на востоке была узкой, с весьма слабо обозначенными краями. Она не сулила мороза. Вечерние тени ложились вокруг четкими синими очертаниями.

Желание скорее встретить дичь заставило нас расширить зону исследования. Скоро я забрался в страшные дебри и окончательно потерял Игната.

Прежде, чем давать призывный сигнал, я решил достигнуть группы высоких елей, маячивших вдалеке. Желание услышать, как можно скорее, журчащий взлет рябчика было, пока, единственным, четко ощутимым моментом состояния.

Выстрел, внезапно раздавшийся справа, остановил меня.

— Сюда!

Крик, непосредственно последовавший за выстрелом, застиг меня на бегу.

Благодаря крайней энергичности движений, я очень скоро на прогалине заметил Игната.

Стоя на месте, он орал:

— Сюда!.. Рыс убил!..

Я подбежал.

На обильно смоченном кровью снегу, действительно лежала, страшно изогнувшись, мертвая рысь.

Каким образом она сюда попала и как позволила подойти на выстрел средней дальности, это для нас осталось загадкой.

Да, сознаться, мы и не особенно ломали над этим головы. Собственно говоря, Игнат совсем потерял голову. Он окончательно одурел от счастья и всё время енчил:

— Ой рыс!.. Ой здоровый! Ой-е-ей!

И, действительно, по размерам и красоте, это был редкий экземпляр.

Всегда, когда я бываю у Игната, мне не лень подойти и погладить чудно-пушистую шкуру—это все, что осталось от когда-то сильного и свирепого зверя.

* * *

По затишьям овражков, за горбами сугробов, тонкие мережки следов раньше в петли свились, а потом разбежались, сиротливо в поля ушли, по глади межхолмья в боровую глушь.

В день первой печатной пороши богаты равнины звериными тропами и каждая из них сулит охотнику радость добычи.

А порой заведет она тебя к чортовой матери—в гнилой лог. И тогда слишком ранним покажется кровавый закат, страшно враждебной представится мутная даль и обостренные до болезненности зрение и слух будут долго, но тщетно, стараться уловить признаки жизни в ледяной сумрачности пустынного окружения.

Но новый рассвет опять хочется встретить на звериной тропе.

Охота!..

**А. Кляевский.**



# Прорванская аблава.

Вёска Прорва ніяк не магла абараніцца ад ваўкоў. За якіх-небудзь два тыдні шэрыя злыдні сьцягнулі паўкапы авечак, задушылі чацьвёра жарабят і выпусьцілі нутрэўе Януцавай кабыле.

— Цяпер ваўкі нейкія неўгамідныя пайшлі,—пачаў гаворку на вясковым сходзе Мікола Пупок.—Сёньня яшчэ адну авечку спэйкалі...

— Дзе гэта яны яе спэйкалі? — спытаў Пупка Хвёдар Гуз. Той Гуз, што летась, будучы ў горадзе, чуць ня ўехаў з наравістым канём у сталоўку.

— Дзе-ж, калі ня ў Імшарыне! Там, мусіць, іх логава...

Пупку ня даў дагаварыць Сьцёпка Ліс. Ён лічыўся ў Прорве лепшым знаўцам воўчага жыцьця. Меў нейкую ламачыну стрэльбу, якую прорванцы празвалі „сьвістуляй“. Сапраўднае прозьвішча Сьцёпкі было—Сенька. Але пасьля таго, як ён забіў на лузе рудога Аўдулінага сабаку, палічыўшы яго лісам, Сьцёпку далі новае прозьвішча.

— Ваўкі ў Імшарыне не вядуцца,—упэўнена адказаў Пупку Ліс.—Калі там іх гнёзды, дык яны ніколі ня будуць блізка сваіх логаваў браць скаціну. Гэтае паскудзтва, відаць, водзіцца, недзе далей.

— Хай яны хоць у пекле сядзяць, абы не чапалі маіх авечак,—сказаў сівенькі дзядок Грак, смаргаючы ад нейкай хваробы правым вокам.—Аблаву на гэтую навалу трэба зрабіць. Другога паратунку няма.

— А чым ты іх будзеш біць? Хіба з качаргою ганяцца па Імшарыне?

— Стральцоў трэба пазваць.

Пасьля доўгіх перамоў быў напісаны пратакол з рэзолюцыяй пасьля дакладу ўсіх прысутных.

„П р а т а к о л

вобшчага сходу прорванцаў. Тут слухалі, як ваўкі душаць авечак. Пастанавілі пасляць дэлегатам у паляўніцкі калектыў Сьцёпку Дасьціпнога, каб ён дагаварыўся з таварышамі стральцамі, як зьвесьці са сьвету воўчую навалу. На патрэбы Сьцёпкі з-за таго, што ён едзе па грамадзкай справе, сабраць па 10 к. з кожнага двара.

С л у х а л і: бягучыя справы.

П а с т а н а в і л і: з-за таго, што ў бягучых справах ніякіх спраў няма—адлажыць усё гэтае і іншае да другога сходу. Старшыня сходу К е п а ц ь, сакратар А х р э м  С т р у ч о к“.

---

Старшыня райкалектыву Тодар Зарэз абвясьціў бліжэйшых паляўнічых, каб яны падрыхтаваліся да аблавы, якую трэба правесьці ў бліжэйшую нядзелю. Калі надыйшоў дзень зьнішчэньня шэрых драпежнікаў, у вёсцы Прорва сабралася 60 стральцоў.

Толькі што прагналі статак на пашу. Па вуліцы блукаліся пустапасам сьвіньні, вярнулі каля хат старыя прызбы. Рухлявыя куры шнырылі пад варотамі, шукалі спажывы ў пакінутым на вуліцы гнаі. Сабака, што ляжаў каля студні ў канцы вёскі, гультайскі лыпаў губамі, калі яму дапякалі назойныя мухі. Чорнымі клубкамі, куляючыся ад лёгкасьці, выскакваў з каміноў дым. Было ціха. Раптам гэты спакой летняе раніцы рвануў рэзкі голас сельвыканаўцы.

— На аблаву!..

Пастаяўшы крыху на вуліцы і ўбачыўшы, што ніхто ня рыпае дзьвярыма, выходзячы на двор, выканаўца плюнуў. Потым акуратна зацёр сваю сьліну ў брудны пясок вуліцы і рушыў пад самую крайнюю хату вёскі.

— Дзядзька Лявон, ты ня чуў, ці што? Трэба на аблаву ісьці. Стральцы ўжо сабраліся.

У хаце нехта зарыпаў старым сталом, потым сівая барада прыпала да шыбы.

— На аблаву, кажаш? Стральцы прышлі? А чаго мне ісьці, калі ад маіх авечак і капыткоў не засталося! Няхай тыя ідуць, у каго воўк яшчэ нічога не чапіў.

— Зьміцер, выходзь на двор! Бяжы да членскай хаты,—загадваў выканаўца пад другім вакном.

— Няма Зьмітра дома. Паехаў на кірмаш у Падбярэзьзе.

— А хто ў заганятыя пойдзе?

Жаночы голас, відаць гаспадыні, некаму загадаў:

— Абувай, Сьцёпка, лапцікі, ды прабяжы на аблаву. Ты ня плач, ваўкі ўдзень ня кусаюцца...

Праз поўгадзіны пасьля скончэньня абходу выканайца падводзіў вынікі паасобнага заклiку. Сабралася душ дваццаць хлапчукоў ды прыкульгаў яшчэ сюды сівенькі дзядок Мірон, які вельмі любіў удзельнічаць на аблавах.

— Ня йдзе, нешта, народ,—прашамкаў Мірон, падыходзячы да паляўнічых.—У нас заўсёды так: калі гаварыць—дык усе ўмеем, а як на аблаву ісьці—дык ніхто. У аднаго няма чаго ісьці, бо ўсё цэлае. Другі кажа:—чаго я пайду, калі ў мяне ніводнага хваста воўк не пакінуў?..

— Калі ваўкоў не чапаць, дык яны кожны год не дадуць спакою. Яшчэ больш разьвядуцца. Тады ня толькі скаціну, а і людзей пачнуць у лес цягаць. А ўсё з-за таго, што неарганізаванасьць у вас,—сказаў Зарэз.

Паляўнічыя, чакаючы заганятых, разьмясьціліся на бярвеньні, якое было складзена пад стрэшшу членскае хаты. Туды наперлася процьма хлапчукоў і дзяўчат. Яны прышлі паглядзець на бліскучае ад сонца аружжа.

— Ці ня час ісьці?—падаў нехта голас,—а то ваўкі разьбягуцца.

На яго закрычалі:

— Чаго ісьці, з кім? Каб толькі бяды з гэтымі дзецьмі набрацца, ваўкоў разагнаць?

— А мо яшчэ раз загадаць?—спытаў кіраўнік аблавы.—Можа хоць тыя ёсьць дома, хто выказваўся на сходзе, хто падпісваў пратакол аб воўчай навале.

— Няма іх дома,—упэўнена прагаварыў Мірон, выцягваючы нешта з носу.—Як паехалі ўчора ўвечары на начлег, дык і цяпер пасуць коняй. Я верна кажу...

Ня скончыў Мірон свайго апавяданьня пра туркаў, як недзе воддаль: за кустамі трывожна заіржалі коні. Сьледам за гэтым у бярэзьніку, блізка таго месца, дзе адпачывалі паляўнічыя, загукаў голас:

— Цю-а-га-га ваўка!.. Цю-а-га-га!

Людзі ўскочылі і, хапаючы сьпешна стрэльбы, рынуліся праз кусты на патрывожаны луг. А там ад разагнатых коняй павольна куляліся ў бліжэйшы лес тры шэрыя клубкі.

**Мак. Пасьлядовіч.**

# САБАКАГАДОЎЛЯ

## Яшчэ раз пра гадавальнік сабак „Белкохотсоюза“.



АВОДЛЕ дырэктыў РСІ, VIII Усебеларускі зьезд паляўнічых пастанавіў перавесьці гадавальнік кроўных паляўнічых сабак „Белкохотсоюза“ з кастрычніка 1929 г. на гаспадарчы разрахунак. Гэтую меру трэба разумець як устаноўку, што даходы гадавальніка павінны пакрываць расходы па яго ўтрыманьню і што нельга далей выдаткі па ўтрыманьню гадавальніка ўскладаць на ўвесь калялктыў паляўнічых.

Такая ўстаноўка зусім правільная, бо нельга патрабаваць ад паляўнічага, які мае сваіх добрых сабак, каб ён нёс выдаткі на ўтрыманьне гадавальніка ня лепшых, чымся яго сабак.

Перавод гадаваланіка на гаспадарчы разрахунак— гэта пытаньне яго далейшага існаваньня.

Каб пакрыць выдаткі па ўтрыманьню гадавальніка, трэба мець у год даходу ня менш 4.000 руб. Гэта значыць, трэба штогод прадаваць ня менш 160 шчанюкоў пры цане ў 25 руб. за шчанё і 200 шчанюкоў пры цане ў 20 руб.

Пры тым, што каляктыў паляўнічых БССР складае каля 20.000 чалавек і што большасьць з іх ня мае ня толькі добрых, але і дрэнных гончых сабак, збыт 200 шчанюкоў гадавальніка можна-б лічыць справай забясьпечанай, але, з другога боку, трэба ўлічваць і тое, што наш паляўнічы, асабліва селянін, ня так багаты, каб заўсёды мець 20—25 руб., якія трэба заплаціць за шчанюка.

Гэта ўжо можна бачыць з практыкі. У апошні час у гадавальніку набралася звыш 40 шчанят, узростам ад 6 тыдняў да 5 месяцаў і, ня гледзячы на шырокую аб'яву праўленьня „Белкохотсоюза“, за два месяцы, як спынілі бясплатную раздачу шчанят па акругах, не прададзена да гэтага часу ніводнага.

Можна гаварыць, што на гэта мае ўплыў вялікая цана шчанят (30 р.—1 сорта і 25 р.—2 сорта), але калі і зьнізіць гэтую цану на 5 руб. на шчанё (а больш нельга), то і тады разьлічаць на пасьпяховую прадажу нельга, бо незаможнасьць шырокага паляўнічага прымусіла-б яго рабіць уступку кроўнасьці сабакі і мірыцца на так званых кундалёх.

У апошні час праўленьне „Белкохотсоюза“ пастанавіла раздаваць шчанят з гадавальніку пад кантрактацыю пушніны. Наколькі гэта надзея апраўдаецца,—сказаць цяжка.

Калі да ўсяго сказанага дадаць, што няма попыту на шчанят нашага гадавальніка з суседніх рэспублік, дык стане яскравым, што ва ўмовах БССР трымаць вялікі гадавальнік кроўных сабак—справа рызыкоўная і ня можа праводзіцца ў парадку гаспадарчага разрахунку.

Але ўсё-ж паляўнічаму добры гончы сабака патрэбен—і задача органаў паляўнічай каапэрацыі даць яго паляўнічаму.

Які-ж выхад?

Выхадаў можа быць два, а менавіта:

1. Акруговыя таварыствы паляўнічых павінны ўзяць на сябе абавязак забраць з гадавальніку ўвесь прыплод па цьвёрдай цане за наяўны разрахунак і атрыманых шчанят перадаваць паляўнічым з дапушчэньнем шырокай растэрміноўкі.

2. Гадавальнік „Белкохотсоюза“ павінен быць зачынены, а ўвесь племянны матар'ял перададзен сэкцыям кроўнае сабакагадоўлі пры праўленьнях акруговых таварыстваў, якія павінны будуць займацца гэтай справай у маштабе акругі, парадкам перадачы гэтага кроўнага матар'ялу на ўтрыманьне тым паляўнічым, якія згодзяцца і здолеюць займацца кроўнай сабакагадоўляй на пэўных умовах.

Вось гэтыя два спосабы і ставяцца на абгаварэньне шырокіх мас нашых паляўнічых.

**Янка Белічанскі.**

### Пастанова Ц. П. пра гадавальнік.

У сувязі з тым, што акруговыя т-вы не дапамагаюць у рэалізацыі прыплоду гадавальніку, а таму нельга выканаць дырэктыву НКРСІ і VIII сходу ўпаўнаважаных аб пераводзе яго на гаспадарчы разрахунак—гадавальнік сабак дэцэнтралізаваць.

*Да ведама падпісчыкаў і дапісчыкаў часопісі „Паляўнічы Беларусі“*

**Рэдакцыя паведамляе, што яна ня ўступае ні ў якую перапіску, калі ня будзе даслана паштовая картка для адказу ці 10-капеечная марка.**

**Не мяняе адрасу без дасылкі марак на 20 кап.**

**Ня друкуе матар'ялу без дакладнага паказаньня адрасу, прозьвішча, імя і па бацьку дапісчыка.**

**Не дасылае часопісі без паказаньня дакладнага адрасу.**

# АРУЖЭЙНАЯ ТЭХНІКА

## Аўтамат ці простая магазынка.

Тэорытычна спрэчкі між дробавымі магазынкамі вырашыны ў карысьць аўтамата. Але гэта—толькі тэорытычна „ў агульным і цэлым“. Калі-ж параўнаньне рабіць, дапасоўваючы да ўмоў нашай краіны, то вывады будуць іншыя.

У П.-А. С. Ш., дзе добра разьвіта аружэйная індустрыя, магазынкі неаўтаматы працягваюць рабіць і пры тым ня толькі для экспорта, але і для спажываньня ўнутры краіны. Памятаецца, В. Я. Генэрозаў, у адным з сваіх артыкулаў, пісаных з Амэрыкі, адзначаў, што простыя магазынкі там дастаткова распаўсюджаны.

У чым-жа справа? Амэрыканцам-жа даступны і добрыя аўтаматы і яшчэ лепшыя дзяшовыя двухстволкі. Справа, як відаць, у тым, што магазынкі неаўтаматы, асабліва апошніх мадэляй, маюць шэраг каштоўных пераваг перад аўтаматам.

Спрабую зрабіць параўнаньне. Для параўнаньня вазьму дзьве, найбольш вядомыя, сыстэмы: бяскурковую магазынку неаўтамат Вінчэстара з перасовачным цаўём, мадэлі 1912 году, і аўтамат Браўнінга. Вазьму 16 калібар, як найбольш падыходзячы па сваёй вазе для ўсякага паляваньня.

1 Вага. Вінчэстар важыць 2800 грам. Браўнінг 3300 грам. Вінчэстар мае вагу якраз найбольш зручную для хадавога паляваньня.

2. Вінчэстар мадэлі 1912 году мае даволі прыемны выгляд, чаго ніяк нельга сказаць аб Браўнінгу ды і аб Вінчэстарах мінулых мадэляй. Заражаны Вінчэстар балансуецца у 1—2 сант. ад казеннага зрэзу ствала, што робіць яго вельмі зручным для ўскідкі. Баланс Браўнінга куды горш.

3. Сыстэма. Прастата і зручнасьць сыстэмы Вінчэстара даведзены да высокай ступені; напрыклад, для разборкі затвора патрабуецца адвіньціць толькі адзін шруб. Асноўныя часткі затвора вельмі моцны. Часткі-ж, падвергнутыя псаваньню, напрыклад, экстрактар, можа зрабіць усякі сьлёсар. Дзейнічае сыстэма безадказна.

Сыстэма Браўнінга зьяўляецца, наадварот, адной з найбольш складаных і, вядома, падвергнута псаваньню і капрызам у непараўнаўча большай ступені. Радавому паляўнічаму займацца разборкай мэханізму Браўнінга не пад сілу.

4. Вінчэстар вельмі зручны. Браўнінг-жа патрабуе спэцыяльных, дакладных прыёмаў. У Вінчэстара ствол разам з цаўём адымаецца ад ложы разам з каробкай такім-жа простым прыёмам, як і ствалы ў двустволак. Гэта вельмі важна для чысткі і перавозкі стрэльбы. Для адыманьня ствала Браўнінга патрабуецца значна большая каніцель, прычым атрымліваецца некалькі асобных частак: гайка ад цаўя, цаўё, ствол ложа з каробкай.

Перавагі Вінчэстара тут бясспрэчны.

5. Пры хуткім страляньні з Вінчэстара гільзы выкідаюцца тутака-ж, каля ног, і іх лёгка падабраць. У выпадку толькі аднаго стрэлу гільзу можна ўзяць рукамі з каробкі затвора. Такім чынам, гільзы захоўваюцца для пераснаражэньня. У нашых умовах гэта вельмі каштоўная якасьць.

У Браўнінга-ж гільзы выкідаюцца далёка і трацяцца.

Адзіная, але і самая важная перавага Браўнінга—хуткасьць страляньня. Але хуткасьць страляньня з Вінчэстара таксама дастатковая. Пры шпаркіх паўторных стрэлах стрэльба застаецца ў пляча, палец на спуску. Для перазаражэньня стрэльбы пасоўваньнем цаўя назад і ўперад пры навыку патрабуецца якая-небудзь сэкунда. Гэта не настолькі ўжо многа.

Па ўсіх гэтых меркаваньнях сымпатыі нашага захалуснага паляўнічага, жадаючага мець магазынку для ўсякага паляваньня, павінны быць за неаўтамата.

Ёсьць яшчэ іншыя спрэчкі: магазынка ці двухстволка? Мне здаецца, што „абедзьве лепш“.

У двухстволкі галоўная перавага—заўсёды нагатове другі зарад з другім нумарам шроту. Гэту якасьць у яе не адымеш. З другога боку, калі ўдумацца, то на шмат якіх паляваньнях можна абысьціся з адным толькі нумарам шроту. Ці шмат у нас на паляваньні бывае выпадкаў, што вось, раптам, трэба пусьціць у справу 0, а ў ствале 6 нумар? Вельмі і вельмі мала. Затое вельмі часта бываюць такія выпадкі: ходзіш, ходзіш за качкамі цэлы дзень—і ўсё попусту, але ўрэшце натыкаешся на возерца, падымаецца качка, дзьве; страляеш два разы, а тут пасьля стрэлаў падымаецца яшчэ некалькі штук, дык бывае так блізка, але ўжо позна.

Раней, калі магазынкі неаўтаматы былі толькі цяжкія, ня менш 3400 грам, ды мелі вельмі кепскі баланс—яны не гадзіліся для хадавога паляваньня. Зараз-жа, калі вага іх зьніжана да звычайных паляўнічых двухстволак, яны, вядома, гадзяцца для ўсякага паляваньня, і што, менавіта, выбіраць—двухстволку ці магазынку справа асабістая. У адносіне боя—у магазынках, як правіла, часьцей сустракаецца добры бой. У сэнсе каштоўнасьці—магазынка таней. Магазынка Вінчэстара мадэлі 1912 году каштавала да вайны 60—65 руб. Магазынка Марліна прыблізна такога-ж тыпу і вагі каштавала ў Амэрыцы ад 22 даляраў і вышэй.



# ПАД АГОНЬ КРЫТЫКІ МАС

## Запаведная „балотная“ цішыня.

Беларускі дзяржаўны „запаведнік“ Бабры. Рэдкі, ужо выміраючы зьвер. У СССР захавалася ўсяго толькі некалькі калёній. Адна—на Бярэзіне і яе прытоках.

Раней Беларускі запаведнік быў вядом, дзякуючы гэтай калёніі. У 1929 г. у друку („Беларускі Батрак“, „Паляўнічы Беларусі“, „Савецкая Беларусь“ нацьсценгазэты №№ 1 і 2) сталі зьяўляцца заметкі аб новай рэдкасьці, аб загадчыку запаведнікам гр. Гурыне. Пісалі, што ён экспляатуе батрачак і лясьнікоў, прымушаных, часамі, па бурлацкі перацягваць лодку з шматпудовай жонкай гр. Гурына; пісалі, што ён бацька браканьераў і сам учыняў паляваньне ў запаведніку; пісалі, што нясумленна адносіцца да дзяржаўнага скарбу. (Гэта здаецца выяўлена рэвізіяй лясного аддзелу НКЗ). Пісалі шмат...

Ціхія сонныя бары. Шэрыя, усмоктваючыя ў сябе ўсякі гук топі. Цікава адно. Нават у лесе (ня толькі на сходах)—маўчаць. Толькі ў лесе сказаў адзін з лясьнікоў: „Паху не застанецца ад таго, хто пасьмее сказаць супроць Гурына“. У газэту ніхто з служачых ня пісаў: усе пабочныя людзі-таксатары. Ды і то жонка Гурына крычыць, што ім мала ня будзе; крычыць, што ў Гурына—свае людзі і ў Халопенічах (адзін РВК), і ў Бягомелі (другі РВК), і ў самым нават Менску(?).

Як-жа дабра будзе пастаўлена справа ў такой установе, дзе ўсе маўчаць, дзе афіцыйна ўсё добра?

Запаведнік—навуковая, культурная ўстанова. Не дарма Інстытут Дагестанскай культуры прасіў у запаведніка праслаць сваю друкаваную працу. Але не дачакаўся, што беларускае цікава для Дагестанскай рэспублікі, тое топчыцца тут пад нагамі.

Запаведніка няма. Ёсьць толькі карміліпча кучкі людзей, не заўсёды сумленна атрымліваючых хлеб ад дзяржавы.

Хто дапусьціў такую дзікую, бесталковую для запаведніка рэч, як камэрцыйную распрацоўку лесу? У выніку: разбураны сплавам на Вялікарэцкай канаве бабровыя плаціны. Зе лета сёлета ўжо забіта два бабры. Адзін—недалёка ад тэй канавы, дзе сплаўлялі лес.

Хто дазволіў лясьнікам і насельніцтву выкашываць унутры запаведніка ўсе сенажаці?

На рацэ Мрай бабры былі прымушаны пакінуць жыльлё і уйсьці, таму, што „лясьнік-егер“ Канаш абкасіў іх жыльлё і каналы навакол і яшчэ пытаўся ў аднаго працаўніка: „І чаго яны адгэтуль уцякаюць“? І зразумела абурэньне насельніцтва, у якога праэктуецца ўзяцьце іх сенажацяў у тых мясцох, дзе бабровыя пасяленьні. „У нас адымаюць, а самі ў запаведніку косяць“.


Няроўныя сілы.

І як вынік—разбурана на рацэ Мрай, спалена бабровая хата ў Плетнях, разбурана ў Копцах, разбураны дзьве на возеры Осінка; закінуты і не адрамантаваны—адна на перавозе, дзьве ў старарэччы, адна ў чорнавіраўцы, адна на Асінцы. Становішча бабра на Бярэзіне яўна безнадзейнае.

Ня вельмі лепш і з іншымі зьвярамі. Здохла мядзьведзіца, відаць, атручаная стрыхнінам, які раскідаўся па запаведніку бяз усякай асьцярогі, здохла ласіха; хадзіў паранены лось. (Лясьнік гэтага абходу сьцьвярджае, што ён „зашыблен асінай“).

Шэпчуць кражы. Шэпчуць некаторыя лясьнікі што забіты ўжо не адзін лось, што асабліва кепска з ахова́й у 1 раёне.

Але ў запаведніку зьвяры ня толькі ахоўваюцца, а і разводзяцца, у „гадавальніку пушных зьвяроў“, ужо некалькі год.

Траціць дзяржава на гэты гадавальнік па 687 р., ня лічучы вялікіх затрат на яго абсталяваньне.

Пасадзілі ў гэты, з дазволу сказаць, гадавальнік калісь 9 ці 10 лісаў. Засталася адна жывая і 4 паўдохлых. Лісіцы ня ў прыклад сваёй сабачай пародзе, страцілі здольнасьць пладзіцца ў сабачых умовах.

У насьценнай газэце была заметка, як сапраўдныя дохлыя лісіцы з зайздрасьцю глядзяць на лісіцу-чалавека, атрымліваючы па іх заборнай кніжцы вату, мануфактуру і інш.

Глядзяць на нейкую Рэйнэке-Ліс. Апроч таго, разьвядзеньне чырвоных лісіц (нават пры ўсьпешным разьвядзеньні) пазбаўлена сэнсу, бо эканамічна ніколі не апраўдвалася.

На справе так, што за кошт здохлых і здыхаючых лісаў нехта падкармліваецца. На фоне балотнае „запаведнае“ цішыні няволь-на ўспамінаецца Дымаўка і Папандапула.

**Балотны Сыч.**

Ад рэдакцыі:

Зьмяшчаючы ў другі раз матар'ял пра запаведнік, рэдакцыя патрабуе ад НКЗ прыняцьця тэрміновых мер у запаведніку для зьнішчэньня паказаных дэфэктаў, зьняцьця з працы загадчыка запаведніку Гурына і адданьня разам з усімі вінаватамі ў разбурэньні запаведніка пад суд.

**Рэд.**

## Пад адну грабёнку.

Як вядома, паляваньне на дзікаў у БССР забаронена з тае прычыны, што за апошнія гады гэты зьвер быў зьнішчаны амаль што зусім. Пасьля забароны паляваньня, ён зноў трохі дзе-ні-дзе разьвёўся. Ёсьць месцы, дзе дзік сустракаецца і густа (Мазыршчына, Бабруйшчына), але разам з гэтым ёсьць больш месц, дзе ён не разьвёўся і да гэтага часу.

Зразумела, што пры такім становішчы цяжка даваць дазволы і на часовы адстрэл. Яшчэ летась, праўленьне „Белкохотсоюза“ рэдка згаджалася даваць дазвол, а калі і згаджалася, дык больш з навуковае мэты, адзінкамі.

Што-ж мы бачым зараз? А тое, што дзікі папалі чамусьці ў няміласьць.

Тое-ж праўленьне нядаўна, вуснамі леташняга абаронцы дзікаў т. Данькова, ставіла на абгаварэньне пытаньне адносна дазволу неабмежаванага адстрэлу дзікаў, прычым сам абаронца—т. Данькоў вельмі налягаў на такім дазволе, пужаючы, што „калі мы ня згодзімся з гэтым, дык сам НКЗ усёроўна дасьць дазвол“.

Праўда, галасы членаў праўленьня падзяліліся на дзьве часткі, але жыцьцё дзікаў „вісела на валаску ад сьмерці“. Даволі было-б аднаго члена праўленьня-аматара „адбіўных“ з сьвініны і гэты валасок абарваўся-б.

За адно з дзікамі, т. Данькоў ня проч быў расквітацца і з мядзьведзямі, але тут ён НКЗ у якасьці цяжкай артылерыі ня высоўваў, толькі выказаў сваю думку наконт „Міхася Іванавіча“.

Якi-ж матыў для зьнішчэньня дзікаў? А матыў—узьдзячны—„ахова інтарэсаў сельскай гаспадаркі“.

— „Дзікаў разьвялося відзіма-ня-відзіма. Ходзяць па 60 і больш штук, пакапалі ўсе бульбы, паелі ўсе аўсы,—страты на дзесяткі тысяч. Далей цярпець і захоўваць гэтага драпежніка нельга—ён нам не патрэбен“.

І так горача гаварыў т. Данькоў, што чуць-чуць дзікі не загінулі дашчэнту.

Паколькі такая зьмена думкі ў т. Данькова нечаканая, раптоўная, дык я маю да яго наступныя запытаньні.

1. Колькі ў БССР маецца дзікаў, і як яны разьмяркоўваюцца па асобных акругах?

2. Колькі летась было дазволена адстраляць дзікаў і колькі адстрэлена? Чаму мала адстрэлена, калі за дзікамі „ні прайсьці, ні праехаць“?

3. Чаму гэта пры паказаным ім страшэнным павялічэньні дзікаў экспэдыцыі Навукова-дасьледчага інстытуту, ня гледзячы на высокія прэміі, не змаглі злавіць ніводнага „дохлага“ парасёнка?

4. Чаму ён дзіка ліча шкодным, а Навукова-дасьледчы інстытут—карысным?

5. Чаму ён ставіў пытаньне не ў парадку нармаваньня размнажэньнем, а ў парадку пагалоўнага зьнішчэньня дзіка?

6. Ці ліча ён абавязкам саюзу паляўнічых ахову адміраючых зьвяроў, да якіх адносіцца і дзік?

7. Адкуль ён узнаў, што савецкія распарадкі не павінны спрыяць ахове прыроды, як гэта выходзіць з яго довадаў адносна дзікаў і мядзьведзяў?

8. Чаму пытаньне аб адстрэле зьвяроў ня ставіцца на абгаварэньне ў акруговых таварыствах, якія таксама маюць абавязкі ахоўваць гэтых зьвяроў і ведаюць іх тэрытарыяльнае пашырэньне?

9. Чаму да 1929 г. дзікі ня шкодзілі так бульбам ды аўсам, як сёлета?

10. Калі шкода не аднолькова па акругах ды раёнах, то чаму па ўсіх акругах не абмежаваны адстрэл?

11. Чаму, калі разглядаўся каштарыс НКЗему ў частцы аплаты страт насельніцтва, урад ня ставіў пытаньне адносна гэтага, а адпусьціў сродкі?

12. І апошняе—колькі членаў праўленьня галасавала за неабмежаваны адстрэл дзікаў?

**Хадаронак.**

## „Не суди—да не судим будешь“.

Так думае Лёзьненскае бюро калектыву паляўнічых і ня толькі думае, а і робіць. Вядома, гэта паказвае на „благородность души“ членаў бюро. Вядома, па іх думцы гэта ня кепска—„Не судзі, да і ня судзім будзеш“—думае яно і шмат іншых прыказак можна знайсьці на гэта і нават такую—„Ня крытыкуй і цябе крытыкаваць ня будуць“.

Але мы зусім іншага погляду, іншых думак,—людзі нашага часу, гэтыя прыказкі даўно ўжо аддалі ў архіў. Скажам некалькі слоў аб лёзьненскіх таварышох.

„Не суди, да не судим будешь“. „Ня крытыкуй і цябе крытыкаваць ня будуць“ і „Не чапай і цябе чапаць ня будуць“—лёзьненскія таварышы з бюро калектыву дапасоўваюць нават да ваўкоў. Ці то баяцца яны іх, ці то так, з „благородности душ“—гэта рэдакцыі не вядома, бо яны аб гэтым не сказалі.

У нас толькі ёсьць паперка ад бюро Лёзьненскага калектыву такога зьместу:

„После облавы и по настоящее время нет заяў со стороны населения не в бюро коллектива ни в раённые организации, что оставшиеся старики после облавы уничтожают скот и другую жывёлину...“ (Арфаграфія з арыгіналу) і ўсё; ці, не, пачакайце, ня ўсё, яшчэ нейдзя захавана—„а значыць іх і чапаць ня трэба“.

Чытач запытаецца—у чым тут справа? А справа вось у чым. 28 ліпеня бюро калектыву паляўнічых Лёзьненскага раёну праводзіла аблаву на ваўкоў. Аблава была кепска арганізавана, падрыхтоўка была не энэргічная да яе і аблава прайшла няўдала. Былі пабіты ваўчаняты, а старыя паўцякалі. Наш карэспандэнт адзначыў гэта ў часопісі „Паляўнічы Беларусі“ і сказаў, што старыя ваўкі падзякуюць за гэта каму належыць. Дык вось...

Дык вось Лёзьненскае бюро калектыву паляўнічых рэдакцыю паведамляе, што ваўкі ў іх вельмі добрыя, разумныя, спакойныя, адукаваныя добра, наогул—„вытрыманыя“—...нікога не чапаюць, абы іх не чапалі“.

Можа і так, хто яго ведае?

**М. Я.**

# Сонная хвароба.

Сонная хвароба—вельмі дрэнная, вядома, як і ўсе хваробы. Бывае яна ў цяжкай форме, тады чалавек вельмі моцна сьпіць.

А то бывае яшчэ гэта хвароба ў „лёгкай форме“. „Хворы“ тады ходзіць апусьціўшы рукі, высунуўшы язык, нібы сабака ў жарыню ўлетку, шмат п'е..., вельмі мала есьць, шмат сьпіць і часта брэдзіць; нібы ён нешта робіць, але працы яго ніхто ня бачыць ды і сам ён яе ня бачыць. Такая форма соннае хваробы горш небясьпечна для хворага, чым у цяжкай форме, бо яе вельмі цяжка лячыць дактарам.

Хвораму ў цяжкай форме можна зрабіць якуюнебудзь прывіўку ці ўпрыснуць якім-небудзь „моцным зельлем“ і той прачынаецца; устрахнецца ад сна і становіцца вясёлым, радасным і працаздольным, нібы ён і не хварэў. Апроч таго, цяжкая форма гэтае хваробы працягваецца ня доўга.

Але кепска таму, хто захварэе гэтай хваробай у лёгкай форме, бо яна пачынаецца ня раптам, і з кожным днём, з кожнай гадзінай, пачынае перамагаць хворага і, урэшце, той засыпае і засыпае ходзячы.

Надоечы я быў на паляваньні пад Лагойскам. Іду, гэта, я з стрэльбай, сабака каля мяне хвастом пакручвае. Сустракаецца паляўнічы-селянін, член Лагойскага калектыву паляўнічых.

Спыніліся. Селі на пні. Дзядзька выняў капшук з табакай, набіў піпку, падпаліў табаку сярнічкай і на лесе павіс павучыньнем пахучы дымок дзядзькавай самасейкі. Яшчэ раз зацягнуўся ён, сплюнуў і і запытаўся:

— Ты, бачу я, з гораду. Можа дохтар?

— Не, паляўнічы, як бачыш!—адказаў я і, у сваю чаргу, запытаўся:

— А навошта табе ведаць маю прафэсію?

Дзядзька яшчэ раз смачна зацягнуўся, зморшчыўся, выпусьціў дым, сплюнуў і адказаў:

— Ды я пытаюся пра тое, што ў нас, у Лагойскім бюро калектыву паляўнічых усе працаўнікі захварэлі „сьпячкай“—соннай хворасьцю, гэтай самай, дык, каб прыпісаць якога-небудзь „зельля“ ім. Усё-ж такі, неяк жалка хлопцаў, задарма прападаюць! Ды і наогул, неяк сумна стала жыць паляўнічаму ў Лагойску, хоць уцякай куды вочы глядзяць. Як увечары выйдзеш за дзьверы, дык „мурашкі“ і пабягуць па сярэдзіне. Ваўкі амаль што ў самым Лагойску завываюць і як ноч, дык глядзіш—авечкі няма! А сабакі? За бадзячымі сабакамі—ні прайсьці, ні праехаць чалавеку, а ня то, што прабегчы зайчонку. Ды і наогул шмат ворагаў у зайца: там варона клюне яго, там браканьер з дубальтоўкі на прынадзе стукне, там яшчэ які-небудзь „чорт лысы“. Дык вось, сумна ў Лагойску. Настае восень—ні зьвера, ні птушкі! Пойдзеш у бюро калектыву, каб меры якія прыняць, а там сьпяць, хоць з гармат страляй над іх вухам! Ото бяда, хлопчэ, ото бяда. Хоць-бы якая-небудзь праца. Хоць-бы які-небудзь прасьвет у жыцьці.

Сказаўшы гэта, дзядзька абцёр рукавом вусы і разгладзіў бараду.

Зараз я сяджу ў праўленьні „Белкохотсоюзу“ і думаю: А ўсё-ж такі праўду казаў дзядзька аб Лагойскім бюро паляўнічых. І я стараюся ўстанавіць „дыагноз“ хваробы гэтых таварышоў. Шукаю адзнакі хворасьці. Адчыняю папку з падпіскай на часопісь „Паляўнічы Беларусі“—адзін падпісчык на ўвесь раён. Збор сродкаў на пабудову самалёту „Паляўнічы Беларусі“—няма. Аб правядзеньні конкурсу па зьнішчэньні драпежнікаў—няма. Аб сацыялістычным спаборніцтве—нічога ня чуць. Культпрацы—няма. Іншай працы—ніякай.

Пытаюся ў таварышоў—праўленцаў „Белкохотсоюзу“, ці ведаюць яны, ці чулі яны што-небудзь аб Лагойскім бюро калектыву паляўнічых? Праўленцы пераглянуліся паміж сабою, пацiснулі плячмі і ціха, ціха, нібы нехта сьпіць у пакоі, адказалі:— „Ня ведаем, ня чулі“,—а адзін з праўленцаў, які стаяў ззаду, ня ўтрымаўся і гулка чыхнуў. Ітак, устанавіць дыагноз мне не давялося. **М. Я. Цэлеш.**

# І ў Лепелі сьпяць.

Праца бюро калектыву паляўнічых Лепельскага раёну, Полацкае акругі ў шмат чым адстае ад працы іншых раёнаў.

У кожным № часопісі „Паляўнічы Беларусі“ чытаем аб пабудове самалёту „Паляўнічы Беларусі“ і відаць, што шмат грошай ужо сабрана паляўнічымі розных раёнаў БССР, а Лепельскі раён ня прымае ніякага ўдзелу ў гэтай справе.

Нават і сацыялістычнае спаборніцтва, быццам не датычыцца Лепельскага бюро калектыву паляўнічых. Агульныя сходы паляўнічых склікаюцца таксама быццам па сакрэту. Так, быў склікан сход 6-га кастрычніка г. г., а абвесткі чамусьці разаслалі толькі вясковым паляўнічым, а з гарадзкіх—шмат хто зусім аб гэтым сходзе ня ведаў, нават рэвізійная камісія і тая ня ведала, бо ў горадзе нідзе ня было вывешана ніводнай аб'явы. Адсюль яскравы вывад, што бюро калектыву імкнецца вырашаць тыя ці іншыя пытаньні бяз удзелу ўсёй масы паляўнічых і нават рэўкамісіі. **А.**

# Кісьлякоў не цярпім.

З мэтай штучнага падбору племяннога матар'ялу ў справе разьвіцьця кроўнай сабакагадоўлі робяцца выстаўкі, вывадкі і палявыя спробы сабак. Паляўнічыя Смалявіцкага раёну з гэтай мэтай арганізавалі 24—25 лістапада г. г. вывадку і палявую спробу сабак. Паляўнічыя-сяляне з далёкіх вёсак раёну адгукнуліся і прывялі каля 50 сабак.

Збор паляўнічых на палявыя спробы сабак і арганізацыя вывадкі вытваралася на двары, дзе жыве лясьнічы Кісьлякоў.

Да выстаўкі і спробы Кісьлякоў актыўна падрыхтоўваўся, але ў дзень выстаўкі і спробы ўсё перавярнулася.

Да Кісьлякова прыехаў яго даўнеўшы сябра і прыяцель Лабаноўскі. Але як ня ўслужыць прыяцелю. Кісьлякоў пайшоў з Лабаноўскім на паляваньне. Такая справа Кісьлякова зусім нецярпіма.

**Сабакавод.**

# СОВЕТЫ ОХОТНИКУ

## Памятка кролиководa.

1. Не приступайте к делу ранее, чем обстоятельно не ознакомитесь с ним.

Содержание и разведение кроликов — дело не сложное. Однако для того, чтобы крольчатник быстро и верно приносил бы вам доход, нужны не только заботы о нем, но знания и опыт.

Если не можете устроиться на курсы по кролиководству, то читайте литературу, поработайте на образцово поставленных крольчатниках, ознакомьтесь с ними, пользуйтесь советами опытных кролиководов, держите постоянную связь с организациями, занимающимися кролиководством. Пополняйте свои знания, выписывая и читая периодичкую печать.

Литература: Голубицкий С. Е. „Как разводить кроликов".

Ускова О. И. „Кролиководство и его продукция", изд. Всеохотсоюза. Москва. 1929. Ц. 1 р. 15 к.

Мейер Э. Ф. „Кроличьи шкурки и их выделка на мех и кожу". Госиздат, 1929 г. Ц. 40 к.

Осипов А. „Кролики, их породы, содержание и разведение на шкурки, пух и мясо", изд. „Начатки знаний", Ленинград, 1929 г. Ц. 50 к.

Елагин Л. Н. „Кролик. Мясо, мех, пух и шерсть". Ц. 20 к.

Елагин Л. Н. „Доходное кролиководство". Минск. Ц. 45 к.

Гадзяцкий К. П. „Сельско-хозяйственное, меховое и пуховое кролиководство и кооперативный сбыт продуктов".

Макаревский М. О. „Кролиководство". Ц. 20 к.

2. Если вы решили заняться доходным кролиководством, то приступайте к нему не ранее, чем разрешите основной вопрос о преследуемых Вами задачах и целях его.

Кроликов можно разводить, как для получения вкусного и питательного мяса, прекрасных шкурок, предназначенных к выделке для меховых вещей, так и для получения ценного пуха и шерсти, идущих на пряжу и фетр.

Кроме этого, хозяйство может преследовать и иные цели, как-то: выращивание и продажа племенного молодняка, заселение кроликами участков нерентабельных для сельско-хозяйственных культур и пр.

3. При существующем многообразии кроликов не горячитесь и не увлекайтесь одновременным разведением многих пород их.

Лучше остановите свой выбор на двух, трех породах, соответствующих задачам хозяйства, улучшать стандарт их, чем заниматься коллекционированием.

4. При выборе племенного материала приглашайте для осмотра его ветеринарных врачей или опытных кролиководов.

Требуйте, чтобы производители отвечали бы стандартным требованиям своей породы, были бы жизнерадостны, здоровы и сильны. Не покупайте в период линьки старых зажиревших и дефективных.

5. Если племенной материал приобретается в культурном крольчатнике, требуйте сведений о родословной кроликов.

Избегайте близкого родства между производителями. Избегайте покупки молодняка от производителей старше 3-х летнего возраста. Не пускайте в породу и не покупайте для этой цели крольчат первого окрола.

6. Пока не оборудован крольчатник, не приобретайте кроликов.

7. Если по условиям ведения хозяйства кролики будут содержаться в клетках на открытом воздухе, необходимо, чтобы фасадная часть их была бы обращена на юг или восток.

Защищайте клетки от влияния северных и западных ветров.

8. Избегайте сырости и сквозянков в крольчатнике.

9. Не выбирайте для загонного содержания кроликов или посредством запуска в отдельные угодья низкой, сырой и болотистой местности.

Сухая неровная или гористая, покрытая густыми кустарниковыми зарослями, является наилучшей для этих целей.

10. Не запускайте на 1 гектар площади при нормальных запасах кормовых условий более 20 самок и 2 самцов

(при ежегодном правильном отлове приплода).

Желательно: 1) чтобы первоначальная площадь угодья, отведенного для запуска кроликов, была бы не менее 5—6 гектаров;

2) чтобы обмен производителей самцов происходил в каждые два года.

11. Не выбирайте для запуска кроликов резкой бросающейся в глаза рубашки.

У кролика — много врагов, как наземных, так и воздушных. Чем ближе будет подходить окрас кролика к естественной обстановке акружающей местности, тем менее он будет заметен своим врагам.

12. Если хозяйство пользуется переносными клетками для пастбища молодняка, то какой бы они не были системы, следует всегда иметь в них верх затянутый сеткой.

Не жалейте расходов на это, сетка спасет не одного вашего кролика от ворон и тем окупит свое назначение.

13. Предохраняйте крольчатник от возможности проникновения в него крыс, кошек и пр. врагов кролика.

14. В крольчатнике всегда должно быть достаточно света и чистого воздуха.

15. Скученность—одна из причин к заболеваниям и вырождению кроликов.

16. Клетки для кроликов-одиночек не следует делать меньших размеров чем: длина 105 см., глубина—70, высота—82 см.

Какой бы системы клетки не делались, необходимо помнить при оборудовании их следующее:

а) клетка должна иметь свободный доступ света и воздуха,

б) просторная клетка не повредит, а теснота будет содействовать заболеваниям кролика и гибели его,

в) клетка должна защищать кролика от непогоды и хищников,

г) в клетках должно избегать выступающих деревянных частей, которые кролики будут грызть,

д) система клетки должна позволять легкую приборку, чистку, дезинфекцию ее,

е) в случных клетках для самцов нужно избегать углов,

ж) пол клетки должен быть с'емный или выдвигающийся.

17. Избегайте в вашем крольчатнике земляного пола.

Крольчатник должен постоянно содержаться в чистоте, что при земляном поле достигнуто быть не может.

Лучшим полом для крольчатника является асфальтовый, в тех случаях, когда он не может быть устроен—бетонный и кирпичный.

18. Хорошая сухая подстилка является одним из основных требований правильного содержания кроликов.

В клетке всегда должно быть достаточно сухой и чистой подстилки, какой бы не был ее пол: в разбежку из нескольких пластинок или сплошной, с'емный или глухой.

19. Планом хозяйства всегда должна быть предусмотрена возможность расширения крольчатника, а запасные клетки всегда должны быть в наличии.

20. Не помещайте вновь приобретенных кроликов в общий крольчатник без предварительной временной изоляции.

Как бы не были малы размеры крольчатника, изоляционные помещение в нем и клетки необходимы.

Своевременная изоляция больных кроликов и подозрительных на заболевания спасет от повальных заболеваний остальных.

Большая часть болезней кроликов—заразительны, поэтому следует принимать все меры к тому, чтобы они не распространялись.

21. Кормушки, поилки и ясли должны быть сделаны из таких материалов, которые кролики не могли бы грызть.

Количество их не должно быть в обрез и некоторый запас в крольчатнике—необходимы.

22. Уход за кроликами может быть доверен лишь людям, любящим животных.

Кролики, как и каждое животное, требуют ласкового и спокойного обращения с ним. При таких условиях они быстро привыкают к ухаживающему за ними, чем облегчается во многом процедура правильного содержания.

23. Крольчатник и весь инвентарь его должны содержаться в постоянной чистоте и опрятности.

24. Чистка клеток должна быть не реже чем через день.

Исключение должно быть сделано клеткам самок в первые дни после окрола. Свежую подстилку следует давать каждый день.

25. После дачи мягкого корма мойте кипятком посуду.

26. Котных крольчих сажайте для окрола в хорошо продезинфецированные клетки с чистой водой и большим количеством сена для гнезда.

27. Улучшение породы не может быть достигнуто без правильного кормления кроликов.

28. Каждое хозяйство должно соблюдать правильные кормовые нормы:

а) для крольчат в период времени отнятия от матери до взрослого возраста,

б) для взрослых производителей на покое,

в) для покрытых и кормящих самок,

г) для кроликов, предназначенных в откорм.

Чем разнообразнее будут составлены кормовые нормы, тем лучше.

29. Избегайте давать кроликам мокрый или росистый зеленый корм.

30. Помните, что многие растения ядовиты и вредны для кроликов

(лютик, волчье лыко, дурман, гречиха, ветреница, бемак, фасоль, ракитник, паслен, бешеная ягода, белена, наперстянка, молочай, болиголов, собачья петрушка, куколь и др.).

31. Не давайте корнеплоды одновременно с зеленым кормом.

32. Не давайте излишнего корма.

Следите и записывайте количество с'еденного кроликами корма.

33. Не давайте прелого, загнившего, закисшего, грязного, пыльного и вообще недоброкачественного корма.

34. Котным крольчихам ставьте за несколько дней до окрола чистую воду или молоко и не давайте овса.

Овес лучше всего заменить сухим хлебом, размоченным в молоке.

35. Не пускайте в завод самца ранее года, а самку ранее 9 месяцев, если они к этому времени достигнут своего полного развития.

36. Не держите производителей старше 3-х летнего возраста.

37. Ведите обязательно записи случек и рождений ваших кроликов.

38. Производите случку только в клетке самца.

39. Не пользуйтесь чужим производителем, не убедившись в его здоровьи.

40. Случайте ваших самок вечером.

41. Не давайте самкам более 4-х окролов в год.

42. Не оставляйте более 4-х крольчат в каждом помете.

Если остальные крольчата ценны, сильны и крепки, можно подложить их кормилицам.

43. Будьте чрезвычайно осторожны осматривая гнездо.

Не подходите неожиданно, не пугайте самок, не беспокойте без надобности крольчат и в особенности, когда мать кормит их.

44. Не разрушайте первые три недели гнезда, устроенного самкою.

45. Не отнимайте крольчат от маток ранее 8-ми недельного их возраста.

46. Всех самцов, которые не оставляются хозяйством в породу, следует кастрировать в трехмесячном возрасте.

47. Выращивайте молодняк, предоставив ему максимум простора и прогулок.

48. При группировке молодняка в вольерах старайтесь подбирать по возможности одинакового возраста, роста и силы.

49. Молодых самцов после 3-х месячного возраста отсаживайте в отдельные клетки.

50. Не бейте кроликов ранее 7-ми месячного их возраста.

Лучший период для убоя кроликов — ноябрь и декабрь, когда шкурка кроликов выкуняла и спела.

**М. Зубаровский.**

## Яшчэ адзін спосаб лову кратоў.

У № 8 часопісі „Паляўнічы Беларусі“ ў артыкуле т. Паўлюца „Як лавіць кратоў“ ня былі паказаны ўсе спосабы лоўлі кратоў.

Крата можна злавіць проста, закапаўшы ніжэй лініі яго ходу вядро ці бляшаную скрынку. Ход крата для гэтага трэба выбраць такі, каб ён яднаў 2 „пасёлкі“ крата.

Часта можна назіраць, што ў вядомым месцы накапана цэлая маса кочак і ходаў крата—гэта я і называю „пасёлкамі“.




Нярэдка такіх два пасёлкі распаложаны абапал сьценкі ці дарожкі і злучаны ходам. Вось гэты ход і зьяўляецца лепшым для пастаноўкі пасткі. Мне неяк увосень на таком хаду прышлося злавіць 4 кратоў у адну пастку, не перастаўляючы яе на працягу 3 сутак.

Другая лавушка ўяўляе сабой дзеравяную скрынку або цыліндар з бляхі ці лістовага жалеза сантымэтраў 35 даўжыні і каля 12—15 сантымэтрэў у папярэчніку. Свабодныя канцы яе зачыняюцца выразанымі з бляхі ці ліставога жалеза дзьверцамі.

Дзьверцы гэтыя прывешваюцца на драцяных завесках да верху скрынкі або цыліндра і так пабудаваны, што могуць адчыняцца толькі з нутры, але не надвор (гл. малюнак). Крот, ідучы па ходу свабодна, не сустракаючы перагарод, адчыняе дзьверы і ўваходзіць у пастку, але адчыніць другія дзьверы (з пасткі) ня зможа.

Вярнуўшыся назад і штурхнуўшы першыя дзьверцы, ён іх пашчыльней зачыне і будзе злоўлен.

Гэта пастка ставіцца на такіх-жа ходах і такім чынам, каб не парушаны х׳д крата пераходзіў-бы проста ў пастку як з аднаго канца, так і з другога.

Каб узнаць, ня вынімаючы з зямлі пасткі ці злоўлен крот—робяць зьверху пасткі 2 дзьверцаў, у якія ўстаўляюць 2 саломінкі (гл. малюнак—**а** і **в**) так, каб яны стаялі старчма. Калі будзе злоўлен, ён, ходзячы ў пастцы, іх паваліць.

Крот прыносіць такія вялікія страты ў асаблівасьці на сенажацях і ў агародзе, што яго трэба зьнішчаць ня толькі ўвосень радзі скурак, а і ўвясну.

М. Ф. Патцэр.

**У гэтым нумары „Паляўнічы Беларусі“ ўдзельнічае 28 карэспандэнтаў. Наша задача—давесьці лік удзельнікаў кожнага нумару ня менш 50 чал.**

# АХОВА ПРЫРОДЫ

## Першы Ўсерасійскі зьезд па ахове прыроды і пытаньні паляваньня.

На нядаўна адбыўшымся ў Маскве (з 23 па 28 верасьня) першым Усерасійскім зьезьдзе па ахове прыроды – пытаньні паляваньня займалі віднейшае месца. Паміма аднаго з асноўных дакладаў праф. Н. М. Кулагіна на тэму аб ахове прамысловай фаўны, амаль ва ўсіх дакладах з месц так ці іначай пытаньні паляваньня зачапляліся.

У гэтым нарысе мне і хацелася-б пазнаёміць чытача з некаторымі важнейшымі паведамленьнямі на зьезьдзе, якія закранаюць паляўнічыя інтарэсы і асьвятляюць становішча паляўнічае справы ў розных кутках Савецкага Саюзу.

Так, з дакладу прадстаўніка Дзяржаўнага Камітэту па ахове прыроды РСФСР т. Пацёмкіна высьветлілася, што ў нас традыцыі дарэвалюцыйнае драпежніцкае гаспадаркі яшчэ ня зьнішчаны да гэтага часу і што ў гэтым напрамку трэба яшчэ шмат працаваць як у цэнтры, так і на месцах.

Некалькі прыкладаў, з ліку прыведзеных дакладчыкам, лепш за ўсё могуць ілюстраваць вышэйсказанае. Галоўны промысел на цюленяў у нас на Каспійскім моры ўчынаецца ўзімку, у пачатку студзеня, г. зн. у час размнажэньня цюленяў і калі моладзь („бялок“) дае найбольш нізка расцэньваемую скуру. Затым убой цюленя вядзецца таксама і ўвясну, г. зн. у час лінькі гэтых зьвяроў, што зноў абясцэньвае скурку.



Лось.

Па даных здымкаў з самалёту ў Белакорска-Мурманскім прамысловым раёне ўстаноўлена наяўнасьць цюленявага стада ў 1 мільён галоў. У сувязі з гэтым пэрспэктыўным плянам гадовая дабыча беламорскага цюленя вызначана ня больш як у 350 тысяч штук. Але ўжо ў 1927 г. аднымі нарвежцамі там дабыта 200 тыс. галоў, рускімі—117 тысяч галоў узрослага і 4735 шт. бялкоў, г. зн. усяго 321.735 шт.[1])

Калі прыняць пад увагу, што сёлета вышэйазначаная норма гадавой дабычы, намечаная пэрспэктыўным плянам, ужо дасягнута, а потым усё расьце, то бязумоўна, стане небясьпечней, што промыслы ўжо перавысілі ўстаноўленыя нормы і зачапляюць асноўны капітал.

Другі прыклад датычыцца Дальня-Усходняга раёну, дзе да вайны дабывалася штогод 120 шт. кітоў. У часы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны Дальня-Ўсходнія промыслы амаль што былі прыпыніліся. У 1925-26 г. там працавала нарвэская кітабойная камісія, якая дабывала ў сярэднім ня менш 600 кітоў. Калі да гэтага дабавіць кантрабандныя промыслы амэрыканскіх кітабойных судзен, дабываючых прыблізна 50—100 кітоў у год, то стане відавочнай прычына настолькі вялікага за астатнія гады апусташэньня кітавых стад.

Яшчэ больш відаць драпежніцкія тэндэнцыі з прыкладу вядзеньня пушных загатовак марской выдры.

Куды лепш справа абстаіць з другім, таксама вельмі каштоўным марскім зьверам—коцікам. Агульны іх лік зараз вызначаецца лічбай у 18000 штук. Штогадовы прыплод коцікавага стада дасягае 900 галоў, так што тут ужо можна гаварыць аб плянамернай эксплёатацыі гэтага віду.

У адносінах іншай жывёлы, складаючай аб'ект паляваньня, асобнае ўвагі заслугоўваюць пушныя зьверы. Ужо да вайны вызначалася паменшаньне асноўных запасаў пушных зьвяроў, асабліва, собаля, блакітнага пясца, бабра, марской выдры і коціка. За гады вайны ў сувязі з скарачэньнем промысла і экспарту, пушных зьвяроў трохі было напладзілася, але пасьляваенны ўзмоцнены попыт на мяхі за мяжой, а таксама валютнае значэньне пушніны дужа падвысілі загатоўкі пушнога зьвера, утварыўшы па цэламу шэрагу відаў проста-такі пагражаючае становішча. Прыводзімыя дакладчыкамі для ілюстрацыі гэтага становішча лічбы нашых пушных загатовак па асобных відах і гадох лепш за ўсё аб тым сьведчаць.

У апошнія часы пачалі загатаўляцца і новыя віды пушніны, раней ня меўшыя ніякага прамысловага значэньня, як напрыклад: хамяк, бурундук, вадзяны пацук, крот і інш.

У якасьці аднэй з актуальнейшых задач, рашэньне якой павінна садзейнічаць правідловаму, плянаваму падліку пры загатоўках пушніны, высоўваецца праблема біолёгічнай здымкі (вучоту) прамысловых жывёлін ці паляўнічай таксацыі паляўнічых угодзьдзяў.

У межах РСФСР у мэтах упарадкаваньня паляўнічае гаспадаркі, па дадзеных „Всекохотсоюза“, арганізавана 914 заказьнікаў агульнай плошчай у 7,5 мільёнаў га, пры агульнай плошчы паляўнічых угодзьдзяў у 1,6 мільярдаў га. Такім чынам плошча, якая адводзіцца пад заказьнікі—яўна недастатковая. Ахова ў заказьніках усюды слабая.

Недастаткова таксама каапэравана і паляўнічая маса ў РСФСР. Так, з 2-х мільёнаў паляўнічых, каапэравана толькі 600 тысяч чалавек. г. зн. менш 30%.

Вельмі цікавымі былі даклады з месц. Найбольш віднае месца ў справе аховы прыроды, калі судзіць па дакладах, займае УССР. Уся работа там у галіне аховы прыроды ідзе па лініі Наркамасьветы і Наркамзему, пры чым у апошнім выпадку пераважна праз Украінскі саюз паляўнічых і рыбаловаў. З цэлага шэрагу мерапрыемстваў па ахове прыроды адзначым наступныя, зьвязаныя з паляваньнем.

Так з 1926 году вясеньняе паляваньне забаронена ў поўным аб'ёме. Паляваньне на птушак пачынаецца з 1-га жніўня, і па зьверу—з 1-га лістапада. Уведзены нормы адстрэлу дзічы на аднаго паляўнічага і адно паляван не; напрыклад, дазваляецца забіваць у адно паляваньне ня бальш 1-го зайца, ня больш 10 шт. вадзяной птушкі (у Хэрсонскай акрузе—да 25 шт.) і г. д.

Існуе шэраг паляўнічых гаспадарак: байбакавая (Старабельская акруга); выхухолевая, бабровая; коз і аленяў (у Гаўрылаўцы; фазанавая (там-жа) і інш. Вопыты разьвядзеньня фазанаў аказаліся вельмі ўдачлівымі. На паляпшэньне паляўнічае гаспадаркі прадугледжана сума ў 500 тысяч руб., пры чым на дасьледчую працу па вывучэньню паляўнічай фауны асыгнована каля 60.000 руб. Мяркуецца выданьне карты паляўнічае фауны. Правіламі ўтварэньня паляваньня прадугледжваецца таксама ахова шэрагу буйных і рэдкіх птушак, напрыклад: філіна, арла, журава, глушца, рабца стрэпета. На ўсе гэтыя віды паляваньне зусім забаронена на працягу ўсяго году.

З пярнатых драпежнікаў дазволены да адстрэлу толькі балотны лунь, ястраб-цецяравятнік і ястраб-перапялятнік.

Па некаторых відах вынікі забароны вясеньняга паляваньня аказаліся вельмі спрыяючымі.

Асабліва павялічыўся лік гнездаваньня дзікіх гусей. Так, напрыклад, раней у Уманьскім і Паўлагарадзкім раёнах гнездавалася ня больш 15 пар шэрых гусей, а зараз іх там гняздуюцца тысячы пар.

Слаба разгорнута праца па ахове прыроды ў Сярэдня-азіяцкіх рэспубліках. Асноўнай з задач аховы прыроды там зьяўляецца ахова лясоў. З жывёлы, дзякуючы ўзмоцненым загатоўкам, больш з усіх аказаўся зьнішчаным сурок.

Шэраг цікавых даных аб ахове прыроды і становішчы паляваньня ў Крыму выявілася з дакладу праф. Пузанава. За апошнія гады моцна павысечаны крымскія лясы, пры чым натуральнаму іх аднаўленьню мяшае скаціна, якая бадзяецца тут усюды. Пры гэтым высьвятлілася цікавая роля ваўка ў гэтым пытаньні: з таго часу, як у Крыму быў забіты апошні воўк—

[1]) Да вайны тут дабывалася найбольш 67.000 галоў за год.

выган скаціны стаў учыняцца бяз усякага нагляду з боку чалавека, без пастуха. Такім чынам, скаціна ў Крыму зрабілася шмат дзе *бадзячай*, пранікае ў паркі, у лясы, усюды, дзе толькі ёсьць чым жывіцца.

Лепш абстаіць справа ў крымскім запаведніку. Так, з зьвяроў там добра плодзіцца крымскі алень, якога зараз налічваецца ня менш 300 галоў. Касуля ўжо зусім насычае запаведнік і паступова засяляе вакольныя лясы.

Два даклады былі прысьвечаны Каўкаскаму запаведніку. Гэта адзін з самых буйных нашых запаведнікаў, плошча якога раўняецца 250.000 гэктараў [1]). З жывёлы ў сучасны момант там ахоўваліся ў вялікім ліку: тур і сарны, шмат аленяў, кабаноў, куніц, касуль, мядзьведзяў, а з птушак—каўкаскі цецярук, горная індзюшка і шэраг інш.

Але зубра, для аховы якога, галоўным чынам, і ўстанаўляецца запаведнік, у ім ужо, як відаць, няма. З 1923 году там ні сьвежых сьлядоў, ні іншых адзнак зуброў ня знойдзена. Зьнік з тэрыторыі запаведніка таксама і барс.

Бюджэт запаведніка дасягае ў год 80.000 рублёў. Агульны лік служачых каля 50 адзінак, з якіх 4 навуковыя пасады.

Запаведнік мяркуецца шырока скарыстаць для турыстых, для чаго там абсталююцца зручныя маршруты, з належнымі хаткамі і складамі харчоў на шляху. Галоўны маршрут разьлічан на 7 дзён. У 1929 г. запаведнік наведала каля 15.000 турыстых. Цікава адзначыць, што шмат якія дзікія жывёліны ў запаведніку, дзякуючы ахове і мірным адносінам да іх чалавека, зусім, таксама як і ў Амэрыканскіх нацыянальных парках, сталі ручнымі. Дакладчыкам былі дэманстраваны фатаграфіямі, зьнятымі люстэрчачнай камэрай на самай блізкай адлегласьці са стада тураў, сарнаў, аленяў і інш.

Шэраг цікавых даных па пытаньню аховы прыроды прыводзіць прадстаўнік ад Смаленскай губэрні Л. Г. Граве. Гаворачы аб становішчы паляваньня ў губэрні, дакладчык паказаў на маючыя месца выпадкі забойства *ласёў*, на спосабы лоўлі птушак петлямі, якія шырока практыкуюцца тут (цецярукоў, качак, рабцоў, дупялёў і інш.), паўсямесны збор яек. У губэрні яшчэ жыў „Пятроў дзень“, г. зн. пачынаюць паляваньне задоўга да афіцыйнага тэрміну. Усё больш і больш дапасоўваецца „італьянскае паляваньне“, г. зн. прамышляюць *шпакоў*, *драздоў*, *галубоў* і інш. дробязь. Драпежнікаў б'юць усіх, не выключаючы і карысных, як совы. У апошнія часы па даданьнях Дзяржгандлю сталі загатаўляць *сарок*. Дзічы з году ў год становіцца ўсё менш і менш. Запаведнік, які мерказалася адчыніць ў Бельскім павеце—не зацьверджан.

У Татрэспубліцы (па дакладу т. Абісава) маецца 12 паляўнічых рэзэрватараў-запаведнікаў (заказьнікаў), займаючых каля 5 проц. лясной плошчы. Апроч таго ёсьць 3 запаведнікі на вадаплавучую птушку. Паляваньне пачынаецца з 1/III—на балотную і вадаплаваючую дзіч і на зьвера—з 1/XI. Вясеньняе паляваньне забаронена. Пад поўную ахову ўзяты: *бабёр*, *лось*, *алень*, *касуля*, *выхухол*, *лебедзь*, *глушэц*, *шэрая курапатка*, *цяцёрка*. Ласі захаваліся ў 9 лясьніцтвах усяго ў колькасьці ня больш 80 галоў.

Кепская справа з выхухольлю, якую зьнішчаюць браканьеры і, апроч таго, ня мала гіне яе ў сецях рыбакоў. Арганізоўваецца спэцыяльны выхухольны запаведнік у вусьці р. Камы. Нядаўна адчынен *сурковы* запаведнік для аховы сурка.

Цікава адзначыць яшчэ асобную работу так званых „спасателей зайцев“ ад разьліву. У часы паводак па Волзе, Каме і інш. буйных рэках гінуць масамі зайцы, часова знаходзячы сабе прытулак на незатопленых выспах і г. д. У гэтым годзе была праведзена асобная спэцыяльная праца шмат якіх паляўнічых, якія на лодках абяжджалі затопленыя вучасткі і падбіралі гінучых зайцоў, пераводзячы іх на такія месцы, якія не заліваюцца ў паводку. Усяго такім чынам у мінулую вясну было выратавана да 1000 зайцоў, пры чым на аднаго „ратавацеля“ прыходзіліся часамі да 75 шт. выратаваных зайцоў. З ліку выратаваных такім чынам зайцоў больш за 100 шт. пушчана з прадзетым у вуха абручыкам (памечана).

Аўтарам гэтага артыкулу было зроблена паведамленьне аб становішчы аховы прыроды ў БССР. Пры гэтым адзначаны вельмі вялікія непарадкі ў нас у запаведніку [2])

Апроч таго, адзначана шпаркая зьмена натуральнага краявіду, якая ў нас зараз назіраецца, у сувязі з чым паказана на неабходнасьць захаваньня палескага краявідавага запаведніка, на неабходнасьць у першую чаргу каранной рэарганізацыі справы ў запаведніку на Бярэзіне, дзе справа настолькі кепска пастаўлена, што кампрамэтуе самую ідэю запаведніка.

З ліку становічых зьявішч, якія маюцца на тэрыторыі БССР у сувязі з аховай прыроды, адзначан лічбовы рост некаторых паляўнічых відаў, як, напрыклад, дзікай казы, дзіка, глушца, узятых пад поўную ахову на працягу ўжо некалькіх год. Апроч таго—сюды-ж мной аднесены і факт забароны вясеньняга паляваньня.

У разалюцыях зьезду, паміж іншымі пастановамі, было адзначана: 1) адсутнасьць навуковага падліку пушных рэсурсаў; 2) канстатавана на падставе дакладаў з месц моцнае разьвіцьцё браканьерства і недастатковасьць пакараньняў, накладаемых судовай уладай за парушэньне правіл паляваньня (і аховы прыроды цалкам).

Па дакладу праф. Н. М. *Кулагіна* было прызнана неабходным: 1) канстатаваць пагражаючае зьмяншэньне пушных зьвяроў; 2) паказаць на зьніжэньне пушных загатовак, якія назіраюцца; 3) высунуць у якасьці першачарговых мер для выратаваньня пушнога экспорту: а) вывучэньне промыслаў; б) дакладны падлік пушных рэсурсаў; в) арганізацыю дасьледчага інстытуту пушной справы; г) рацыяналізаваньне пляніровак пушных загатовак; д) адчыненьне факультэту паляўніцтва.

Гаворачы аб агульных уражаньнях ад зьезду, належыць адзначыць, што пытаньні аховы прыроды ў нас, урэшце, набылі актуальнае значэньне, што па цэламу шэрагу мерапрыемстваў, зьвязаных з аховай прыроды, нам неабходна пасьпяшыцца (пушное пытаньне, асобныя віды жывёлы і расьлін), што існаваўшыя дагэтуль ведамсьцьвенныя мерапрыемствы недастатковы для таго, каб паставіць на вышыню ахову прыроды; што тут неабходна масавая работа арганізаванай часткі насельніцтва; (камсамол, прафарганізацыі, піянэры, краязнаўчыя аб'яднаньні, вузаўскія гуртковыя арганізацыі і г. д.).

Трэба толькі ўмець зрушыць гэту справу, умець дастаткова зацікавіць ёю насельніцтва.

Канчаючы, такім чынам, некаторыя свае ўражаньні ад зьезду, павінен заўважыць, што па адносіне да БССР—пытаньні аховы прыроды стаяць ня менш, а нават больш, чым дзе-небудзь, востра. Дагэтуль у нас у Беларусі ахова прыроды ня мела месца ў шырокім сэнсе гэтага слова, ахоўваліся, ды і то вельмі кепска, толькі некаторыя віды жывёлы, зьнішчэньне якіх зайшло ўжо вельмі далёка. Між іншым, у момант сацыялістычнае перабудовы гаспадаркі краіны, якая базіруецца, уперад за ўсё, на мясцох прыродных рэсурсаў, меры да своечасовай аховы, падліку і плянамерна-рацыянальнаму выкарыстаньню гэтых рэсурсаў, як ніколі неабходны. Пытаньні аховы прыроды ў нас набываюць дзяржаўнае значэньне. Неабходна, як мага хутчэй, завострыць увагу на іх як самых шырокіх слаёў савецкай грамадзкасьці, так і дзяржаўных органаў.

Лепшым сродкам для гэтага было-б правядзеньне акруговых канфэрэнцый па пытаньнях аховы прыроды, а пасьля і склікаеньне 1-га Ўсебеларускага зьезду, як аб гэтым ужо выказваліся і некаторыя аўтары ў часопісе „Паляўнічы Беларусі“.

**Праф. А. В. Фядзюшын.**

## Нябывалы выпадак з глушцом.

9 кастрычніка ў Прусевіцкую школу таго-ж с.-с. Плешчаніцкага р. заляцеў малады глушэц.

Калі настаўнік з вучнямі пачалі лавіць яго, то ён стаў біцца аб вокны і сьцены і забіўся на сьмерць.

Скурка з глушца была зьнята і зараз-жа накіравана ў Плешчаніцкае лясьніцтва. Там аб гэтым склалі акт і накіравалі разам з скуркай у Беларускі заолёгічны музэй.

Прычына залёту глушца ў школу невядома. Я мяркую, што за глушцом гнаўся каршун, ад якога ён уцякаў і заляцеў у школу.

**М. Алісіевіч.**



„Палюе“.

[1]) Самы буйны запаведнік Саянскі, плошча якога раўняецца 500.000 га.

[2]) Гл. аб гэтым-жа „Паляўнічы Беларусі“ № 8 і 10—1929 г.

# РЫБАВОДЗТВА І РЫБАЛОЎСТВА

## Тайна размножения угря.

Среди наших рыб угорь, бесспорно, является одной из самых замечательных, благодаря своему интереснейшему способу размножения, бывшему полной загадкой до последнего времени.

Несмотря на то, что рыба эта хорошо известна рыбакам (в Белоруссии угорь встречается в бассейнах Немана и Зап. Двины) и вылавливается ежегодно в значительном количестве, поступая на многие рынки, никто все-же еще не видел ни икры его, ни мальков.

Размножение этой рыбы являлось полной тайной, и вместо истины существовали самые фантастические рассказы о способах ее размножения. Зато было точно известно, что ежегодно под осень масса взрослых (т. н. „серебристых") угрей сваливает из рек в море, а весною такие-же массы молодых входят в реки, подымаясь вверх, против течения.

В настоящее время, благодаря работам норвежских и датских ученых, тайна размножения угря разгадана, при этом выяснились в высшей степени любопытные данные.

Осенью „серебристые", половозрелые угри (от 5 до 8 и более лет) из западно-европейских рек выходят в Балтийское, Немецкое и Средиземное моря и отсюда направляются в Атлантический океан. Как показали опыты мечения угрей у восточных берегов Швеции, угорь в день проплывает до 20 км. По мере ухода в море, угорь приобретает более темную окраску спины, а глаза его становятся крупнее, т.-е. весь облик рыбы приближается к характерному виду глубоководных рыб. Интересно, что эти изменения начинаются у угрей уже в пресной воде, повидимому под влиянием созревання половых продуктов, и выделяемых ими соответствуюших гормонов (секретов).

Выйдя в океан, угри направляются на запад и пересекают его, стремясь к одному, строго определенному месту, находящемуся между 55° и 56° зап. долготы, недалеко от Бермудских островов, в т. н. Саргасском море, у берегов Америки. К этому же месту из рек Сев. Америки приплывают такие-же массы американских угрей (отличающихся от европейских количеством позвонков), и места икрометания этих двух видов располагаются совсем рядом, даже отчасти перекрывая друг друга (см. карту).




Здесь на глубине около 1 километра угри выметывают икру, после чего сами, повидимому, погибают; так как с момента откладки икры, в океане взрослые угри не попадаются.

В начале весны из отложенной икры выводятся крохотные рыбки, совершенно не напоминающие угря. Тело их прозрачное, как стекло и имеет форму лаврового листка. В таком виде личинки угря были известны давно, но их принимали за особый вид рыб, называвшихся лентоцефалами. Миллионы угревой молоди, увлекаемые морским течением (Гольфстремом), пассивно двигаются к берегам Европы. К концу первого года жизни они достигают длины в 2,5 см. и не встречаются восточнее 50° западной долготы. (См. карту). На второй год они достигают длины 6 см. и встречаются между 50° и 20° зап. долготы. На третьем году жизни личинки достигают длины 7,5 см. и здесь вблизи берегов Европы, зимою происходит их превращение в молодых угрей. Превращение заключается в том, что личинки становятся менее широкими, тело их делается более цилиндрическим, выростают новые зубы, появляется окраска, а прозрачность становится меньшей. Такая рыбка называется „стеклянным" угрем. Все эти изменения в форме тела, изменения в устройстве и положения плавников, изменения в окраске — необходимы для жизни в новых условиях для того, чтобы плыть против течения рек. Таким образом, лишь на четвертую весну, претерпев указанный метаморфоз, молодые угри массами входят в европейские реки. „Много усилий и трудов, много ужасов переживают они на этом далеком пути, и из первоначальных несметных полчищ лишь немногие счастливчики преодолевают все трудности и достигают цели". Ход угрей в реках происходит преимущественно ночью, при этом рыбы идут весьма стремительно, преодолевая на пути всевозможные препятствия, иногда обходя их даже берегом, по сырой траве. В конце концов, рыбы достигают верховьев рек, заходят в протоки и проточные озера.

Здесь в пресной воде угорь живет, по некоторым данным, до 5—10 лет, по другим—даже до 20-ти, ведя весьма хищный образ жизни, питаясь рыбою, икрою, лягушками, водяными птицами и прочей живностью.

При наступлении половой зрелости, что случается, как уже указывалось, через 5—8 лет (или еще позднее), угри подвергаются, описанным выше, изменениям, приближающим их к виду глубоководной рыбы, и приобретают название „серебристых". С наступлением осени массы зрелых рыб навсегда покидают реки, снова уходя к местам своей далекой родины, чтобы там, на океанических глубинах совершить (и при этом только „один раз в жизни") „священное дело размножения".

Неправда-ли „странная, ни с чем не сравнимая страница жизни"?

Научное об'яснение этой удивительной миграции угря некоторые видят в допущении существования некогда в северной половине Атлантического океана материка, доходившего почти до берегов Америки. При последующем постепенном погружения в воду этого материка и отступании вследствие этого берегов его на восток, путь угрей до места их первоначального нерестилища в Саргасском море постепенно удлинялся, пока, наконец, не принял современных размеров, неизменно сохраняя их в течение многих веков, благодаря замечательному консерватизму и наследственной передаче миграционного инстинкта из поколения в поколение.

В других группах животного царства можно также указать примеры подобного консерватизма инстинктов и их наследственной передачи в течение бесчисленных поколений. Таким примером могут служить ежегодные далекие перелеты птиц с мест зимовок к местам своей родины и обратно, при этом направлении пролета многих птиц идет вовсе не ближайшим путем, а весьма окольным, являясь слепым („инстинктивным") повторением пути расселения вида, консервативно удерживаясь и передаваясь по наследству из поколения в поколение.

**А. В. Федюшин.**

# Рыбный яд.

Среди широких масс нашего Союза распространены самые превратные и ничем не обоснованные сведения о природе рыбного яда. Вследствие этого многие избегают употреблять в пищу рыбу и тем самым лишают себя дешевого, вкусного и питательного блюда.

В настоящем очерке мы попытаемся дать краткий очерк современного состояния наших знаний о рыбном яде и его свойствах. Рыбный яд встречается в природе в двух видах или категориях. Физиологический рыбный яд вырабатывается организмом живой рыбы в целях самозащиты, устранения или в целях неприкосновенности ее органов размножения. Рыбы, вырабатывающие такой яд, могут быть названы ядовитыми. Таких ядовитых рыб встречается значительно больше в водах тропического и теплого поясов, чем в водах умеренного и холодного. Ядовитыми являются так называемые „иглобрюхи“ или „скалозубы“, водящиеся в Японии, Китае, Ост-индии, Новой Каледонии и у мыса Доброй Надежды. Эти рыбы называются у японцев „фугу“; их мясо и в особенности икра так ядовиты, что часто являются средством к самоубийству у японцев. Действие яда иглобрюхов обнаруживается зачастую во время еды. Смерть наступает через 10 минут, иногда через 2—3 часа. Нескольких зерен икры иглобрюха достаточно для того, чтобы отравить крупную собаку. Ядовитыми являются также и некоторые виды сельдей, водящиеся в тропических морях. Из рыб наших морей к ядовитым можно причислить некоторые из видов семейства губанов (Черное море) и некоторых марулек (Мурман, Охотское и Японское моря); ядовитой является икра усача или мирона, водящегося в реках Европы, например, в Днепре и туркестанской маринки. Некоторыми исследователями считается ядовитой также икра щуки. Вообще же нужно заметить, что физиологический яд вырабатывается преимущественно в половых органах. Среди рыб, нашего Союза постоянно ядовитых рыб нет. Только у некоторых, названных выше, яд вырабатывается во время созревания икры.

Вторым родом рыбного яда является яд, который вырабатывается в рыбе при патологических условиях вследствие заражения мяса рыбы низшими организмами, возможно, еще при ее жизни. Этот яд остается в рыбе, количество его увеличивается после смерти рыбы: при чем даже консервирование солением не предохраняет от яда. Рыбный яд, только что описаный, имеет большое значение, так как отравления им происходят довольно часто и принимают даже характер целой эпидеми, как это было, например, в 1841 году.

Прежде всего заметим, что отправление „патологическим“ рыбным ядом происходит после употребления в пищу в невареном виде соленой, конечно и вяленой рыбы. Отравлений свежей рыбой почти никогда не наблюдается. Случаи отравления известны при употреблении в пищу копченой сельди, вяленой тарани и воблы, соленой семги и в особенности красной рыбы (севрюга, осетр, белуга). Смертность от подобного рода отравлений довольно высокая. Отравление проявляется обыкновенно через час и не позднее чем через пять часов после принятия зараженной рыбным ядом рыбы. Симптомы отравления таковы: чувство давления под ложечкой, головокружение, потемнение в глазах, желтые и красные круги перед глазами, тошнота, позывы на рвоту, спазмы в желудке, схватки в кишках, сухость в горле, хрипота, потеря голоса, сухость кожи до ломкости ее, сухость слизистых оболочек до потери эпителия и язв во рту, запор, затем паралитические явления и, наконец, смерть. Сознание сохраняется до конца жизни. Если отравление переносится больным, то уже через несколько дней от него не остается и следа.



На лунке.



Раніцой.

Какова же, однако, природа яда соленой рыбы? После целага ряда исследований русскому врачу—Константову удалось установить, в 1916 г. в лаборатории проф. Хлопина, источник заражения рыбы ядом. Таким источником является особая бактерия которой заражается рыба. Бактерия эта была названа „бациллус ихтиизми“, т. е. рыбная бацилла. Болезнь, вызываемая рыбным ядом, получила название „ихтиизмус нервотикус“ Таким образом было установлено, что рыбный яд представляет собой продукт жизнедеятельности рыбной бациллы, которая, попадая в рыбу, начинает в ней размножаться. Изучая биологию рыбной бациллы д-р Констансов установил, что, как размножение ее, так и сопутствующее ему выделение токсинов происходит в анаэробной среде, т. е. в отсутствии воздуха и при том при довольно высокой температуре (25—27°Ц). Первоначально бактерии находятся в кишечнике рыбы, затем они проникают в другие органы и попадают в мясо. Смерть рыбы, как оказалось, содействует распространению яда по ее телу. Очень важным является то обстоятельство, что потребление в пищу рыбы становится опасным только тогда, когда в кишечнике рыбы происходит массовое размножение бактерии. В небольшом же количестве, совершенно не опасном для человеческого организма, рыбная бацилла встречается в кишечниках рыб довольно часто. Условия, при каких происходит массовое размножение рыбной бациллы, не выяснены.

Установлено далее, что максимальное развитие рыбной бациллы наступает через 48 часов и что начало гнилостного размножения мяса рыбы задерживает развитие рыбной бациллы. Отсюда вполне понятно, что гнилая рыба никогда не вызывает отравления рыбным ядом. На рыбный яд разрушительно действует варка рыбы и алкоголь. Вот почему пившие во время еды отравленной рыбы алкогольные напитки обычно страдают от отравления меньше, чем не пившие, а иногда и не отравляются вовсе.

Однако, не смотря на то, что познания наши о рыбном яде подвинулись довольно далеко, все же очень многое остается не ясным. Так, совершенно неизвестно, где и когда рыба заражается ядом, почему соль не предохраняет рыбу от яда, а почему ядовита только соленая рыба, не свежая и т. д. Самым радикальным средством при отравлении рыбным ядом является прививка сыворотки антиихтиизма, которая впервые была получена Констансовым от иммунизированных *) животных: лошадей и баранов. Такая сыворотка до войны изготовлялась в чумной лаборатории под Кронштадтом и рассылалась на места. Вместо сыворотки антиихтиизма можно употреблять также и сыворотку против колбасного яда, так как оба эти заболевания по природе очень близки друг к другу.

**В. Е-ов.**

*) Рыбный яд вводился в небольших дозах в кровь животных; кровяная сиворотка, взятая от них, и составляет лечебное средство для отравленных.

# ЖЫЦЬЦЁ НА МЯСЦОХ

## Страляў у сабаку, а папаў у чалавека.

*(Любаньскі раён).*

Старшынёй Любаньскага калякты ву паляўнічых зьяўляецца фэльчар Сьпірыдонаў, а працуе за яго сын—Юрка.

Юрка часьцяком праводзіць аблавы замест бацькі, Юрка прадае боепрыпасы, прыймае пушніну, загадвае грашмі, а к таму ён і добры паляўнічы.

Юрка перагнуў палку ў адстрэле бадзячых сабак і страляе іх дзе папала: ці то на ланцугу ў гаспадара, ці ў вёсцы, ці паміж людзьмі, усё роўна.

22 кастрычніка, ідучы каля млыну з нейкім тэхнікам, ён убачыў сабаку пад возам. Тут было шмат сялян.

Юрка Сьпірыдонаў стрэліў пад воз у сабаку, а папаў і моцна параніў у руку, стаячага за возам, селяніна Ярмалінскага.

Калі Юрку арыштавала міліцыя, то ён аказаўся п'яным, а пры вобыску ў кішэнях знайшлі шмат казённых грошай.

**Сокал.**

## Засільле браканьераў.

Ва Ўваравіцкім раёне шмат браканьераў „усякай масьці і полу".

Тут і браканьеры, палюючыя па білету бацькі, брата і г. д.; тут і „таварыскія" браканьеры, якія ідуць на паляваньне і задавальняюцца боепрыпасамі добрымі таварышамі; тут і браканьеры „з-за вугла", з-падцішка і інш.

Напрыклад, паляўнічы Рэчыцкага калякты ву Красьнякоў Янка мае дзьве стрэльбы і палюе то з бацькам, то з дзядзькам і дае ім прыпасы; быў складзен на яго пратакол—ды заглохла справа.

Другі паляўнічы Ўваравіцкага калякты ву Карлоўскі Якаў таксама садзейнічае браканьерам— Любоштаваму Макару, Цыганкову Яўхіму ды і бацьку водзіць на паляваньне.

Браканьер Пінчукоў Макар з х. Доўгі Бор паляваў усю вясну, а порах яму дае член Рэчыцкага калякты ву Пінчукоў Кузьма.

**Дзед-паляўнічы.**



## Мятлой з калякты ву.

Ёсьць прыказка—„ У сям'е ня без урода". У нас-жа іх аказалася пяць. Два з іх асабліва вылучаліся—гэта Кандрашэнка Б. і Бараш А.

Добра ведаючы, што на зайца пачынаецца паляваньне 15-Х, яны рассудзілі іначай: „Калі мы выйдзем на паляваньне 15-Х разам з усімі, то цяжка будзе запаляваць што небудзь" і выйшлі 13-Х. Праўда, палявалі яны добра ды забілі тры зайцы. Калі ім сказаў паляўнічы-селянін, што паляваць нельга, то тыя адказалі: „Нам можна, а вам нельга".

Маладуская і Янаўская сельячэйкі паведамляюць у раён, што і там меліся такія выскачкі—гэта Бяда Янка, да рэчы і раней заўважаны ў браканьерстве, Вабіран Яўхім і Лысы Даніла.

Бюро калякты ву паляўнічых Рэчыцкага раёну паглядзела на гэту справу іначай ды вычысьціла браканьераў з калякты ву.

**Бабчонак.**

## Дзічы не прыбаўляецца, а памяншаецца.

Прачытаўшы часопісь „Паляўнічы Беларусі" №№ 7 і 8, дзе т. т. Савіцкі і Цэлеш гаворань, што дзіч множыцца, я не магу згадзіцца з іх довадамі.

Калі павялічваецца колькасьць качак - чыркоў— гэта ня значыць, што павялічваецца дзіч.

Трэба паглядзець, што робіцца кілёмэтраў за 30-40 ад М нску, ад гораду.

Там пастухі водзяць у поле, у лес, сабак улетку, разбураюць гнёзды, забіраюць яйкі і яшчэ ня ўзрослых зьвяркоў.

А паляўнічыя? А паляўнічыя ўвясну палююць на цецярукоў на таку, на селязьняў на манку.

А лясная варта? Лясная варта не зьвяртае ніякае ўвагі.

Калі мы будзем і надалей так адносіцца да нашае фауны, то праз блізкі час ня будзе за чым паляваць.

**Шмялёў А.**

## Зрабілі заказьнік.

Паляўнічыя Слуцкага раёну, заслухаўшы даклад аб памяншэньні дзічы, пастанавілі зрабіць канкрэтныя захады і ў сямі кілёмэтрах ад гораду зрабілі невялічкі заказьнік. Плошча гэтага заказьніка займае прыблізна каля пяці кв. кілёмэтраў.

Для аховы заказьніка і зьнішчэньня ў ім бадзячых сабак вызначылі паляўнічых т. т. Густарніка Ф. і Якімовіча Я., якія добра і спраўляюцца з гэтай справай.

Хоць гэты заказьнік і малы, але вынікі маюцца ўжо добрыя.

Спадзяёмся, што з слуцкіх паляўнічых возьмуць прыклад і іншыя.

**Былінка Ц.**

**Социалистическое соревнование—основной рычаг поднятия и укрепления хозяйства страны.**

## „Сямейныя“ браканьеры.

Ёсьць шмат паляўнічых, што па свайму білету даюць паляваць сваякам. Бывае, што ўся сям'я палюе па аднаму білету. Нам гэтых браканьераў трэба выявіць і выключыць з саюзу паляўнічых.

Так у нас, у Брагінскім раёне Смальцэр Н. В. палюе з браканьерам Кулаём І. З. і дае яму паляўнічыя бояпрыпасы. Брагінскі калялктыў павінен выключыць Смальцэра з саюзу паляўнічых.

Трэба павесьці барацьбу з гэтым злом. **І.**

## Іх трэба выключыць.

Паляўнічыя Радзенкаў Пятрок і Кавалёў Трыфан Бабруйскага калялктыву паляўнічых, пайшлі на паляваньне, а папалі ў шынок ды напіліся самагонкі.

Каб у гэтым бяда, дык гэта б яшчэ нічога, а то напіліся і давай біцца. Адзін шапкай па мордзе, а другі—стрэльбай. Тады той узьвёў куркі і хацеў страляць, але стрэльба чамусьці ня стрэліла.

У бойку ўмяшаліся і непаляўнічыя. Трэба такіх паляўнічых гнаць з саюзу, бо яны зьяўляюцца небясьпечнымі для насельніцтва.

**Ш. А.**

## Браканьераў суд не шчадзіць.

Па ініцыятыве бюро рэчыцкага калялктыву паляўнічых 13-IX нарсудом разьбіралася справа гр. Смоліча з в. Воўча-Гара, які абвінавачваўся ў тым, што з сабакам (бяз стрэльбы) паляваў на качак. Браканьер быў злоўлен Перасьвятаўскай ячэйкай з дзьвюма качкамі.

На судзе браканьер Смоліч хацеў замазаць свой праступак тым, што 5 чалавек рабочых, выкліканыя ў суд у якасьці сьведак, страцілі куды на большую суму рабочага часу, чым стоюць гэтыя дзьве качкі. Але суд прыняў пад увагу тую акалічнасьць, што такія нявінныя браканьеры зьнішчаюць ня дзьве качкі і прысудзіў Смолічу 10 руб. штрафу.

**Бабчонак.**

## Аматар маладых зайчыкаў.

Паляўнічы Дзямідчык Арцём, Самахвалавіцкага раёну, Цеплінскай ячэйкі паляўнічых вельмі кахаў свайго маладога ганчака.

Гэта, вядома, ня кепска. Але кепска тое, што Дзямідчык лавіў зайцоў маладых і сажаў іх у загарадзь для нагонкі сабакі. Цеплінская ячэйка за гэта пазбавіла яго паляваньня на тры месяцы.

**Ведаючы.**

## Хто вінават.

Ужо другі раз арганізоўваецца ў гэтым годзе аблава Брагінскім райкалялктывам і ўсё няўдала, ды няўдала і не па віне паляўнічых. Паляўнічыя зьбяруцца на аблаву—загоншчыкаў няма. Сяляне ніяк не жадаюцьісьці ў загон! А ваўкі робяць сваю справу. Ужо задавілі 10 коняй, шмат авечак, сьвіней і інш. жывёлы.

**Сідарэнка.**

# Адчынен заказьнік.

## ПАСТАНОВА Н. К. З.

*ад 19 лістапада 1929 году.*

Народны Камісарыят Зямляробства пастанаўляе: арганізаваць паляўнічы заказьнік тэрмінам на 5 год, з 20 лістапада 1929 г. па 20 лістапада 1934 г. у Крапівінскай дачы Панькаўскага лясьніцтва, Магілеўскай акругі, на плошчы 1925 гэктараў у кв. №№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18 і 19 з уключэньнем пад заказьнік у паўднёва заходняй частцы яго кускоў зямлі грамадзян в. Мухаўкі і Вітунь, Клін і Ганнаўкі, якія ўкліноўваюцца ў 16 і 17 кварталы.

Даручыць лясьнічаму Панькаўскага лясьніцтва ўстанавіць межы ў натуры, паставіць адметныя слупы і апісаньне межаў даслаць Лясному Кіраўніцтву.

Народны Камісар Зямляробства **Рачыцкі.**

Нам. Заг. Лясн. Кіраўніцтва **Пятрушын.**

Інспэктар паляўнічай гаспадаркі
і пабочных карыстаньняў **Дзярыба.**



Бялуга ў 200 кілё вагай была злоўлена на рацэ Шэксьне, вышэй Чарапаўца. Бялуга была паранена параходам і, калі яе ўбачыла жанчына і хацела злавіць, то чуць не паплацілася жыцьцём. Падасьпелі два селяніна і дапамаглі выцягнуць рыбу.

Мядзьведзі ў с. Важынох, Ладзейнапольскае акругі, на працягу верасьня зарэзалі чатырох кароў, трох коняй і аднаго жарабка. Зробленыя аблавы прайшлі няўдала.

Ваўкі. У в. Іванаўскае, Выцягорскага р-ну воўк забег у вёску ў тры гадзіны раніцы і на вачох людзей загрыз цялёнка.

У в. Савіна таго-ж раёну ваўкі днём у полі напалі на авечак і ўцягнулі тры штукі.

У в. Зялёнінай ваўкі раніцой забеглі на двор і задушылі дзьвюх авечак.

Ленінград. Дэканат факультэту паляваньнязнаўства Вышэйшых курсаў прыкладной заолёгіі і фітапаталёгіі і Бюро зьвераводзтва і паляваньнязнаўства пры гэтых курсах будуць выпушчаць часопісь, спэцыяльна прысьвечаную пытаньням рацыянальнага выкарыстаньня паляўнічых багацьцяў і арганізацыі правідловае паляўнічае гаспадаркі. Часопісь будзе мець 160 стар. і будзе называцца мусіць „Паляўнічая гаспадарка".

Грознае зьявішча. У Залускім лясьніцтве, Наўгародзкай акругі шмат загінула за апошнія пяць год белых курапатак ад рыбакоў. Зараз там нідзе ня сустрэць гэтае птушкі.

Ленінград. 17 кастрычніка пачаліся заняткі на першым і другім курсах факультэту паляваньнязнаўства вышэйшых курсаў прыкладной заолёгіі. На першы курс прынята 30 чалавек; на другі перайшло—8.

Апроч таго, 9 лістапада пачынаюцца заняткі на шасьцімесячных вячэрніх курсах паляўніцтва і зьверагадоўлі, арганізаваных Бюро зьверагадоўлі і паляўніцтва, якое раней было пры Дзяржаўным сельскагаспадарчым музэі, а зараз пры Вышэйшых курсах прыкладной заолёгіі і фітапаталёгіі.

Масква. З Масквы паведамляюць, што, дзякуючы забароне вясеньняга паляваньня, летні сэзон паляваньня ў гэтым годзе прайшаў удала. Дзічы было куды больш, чым у мінулыя гады. Ня было вывадкаў малых—па 2—3 шт. вывадкаў, як раней.

Паляўнічыя ўсе ў адзін голас вітаюць забарону вясеньняга паляваньня.

Такія-ж паведамленьні ідуць з Курганскае акругі Уральскай вобласьці.

Масква. У мэтах наданьня магчымасьці даць практычным працаўнікам паляўнічай і інтэгральнай каапэрацыі тэорытычных ведаў па іх спэцыяльнасьці, неабходных ім для практычнай дзейнасьці і садзейнічаньня падвышэньня кваліфікацыі, „Всекохотсоюз" разам з краявым і абласным саюзам паляўнічае каапэрацыі і Наркамземам вырашылі адчыніць Завочныя паляўніча-каапэрацыйныя курсы.

Курсы разьлічаны на двохгадовы тэрмін навучаньня. У праграме курсаў: 1) Грамадазнаўства (20 лекцый), 2) Фізычная і Эканамічная геаграфія (10 лекцый), 3) Тэорыя і гісторыя каапэрацыі (8 лекцый), 4) Арганізацыя і практычн. паляўн. і інтэгр. каапэрацыі (20 лекцый), 5) Каапэратыўнае і паляўнічае законадаўства (5 лекцый), 6) Агульнае і каапэрацыйнае рахункаводзтва з аналізам балянсу (18 лекцый), 7) Агульная і каапэрац. статыстыка (6 лекцый), 8) Інструктаваньне, рэвізія і кантроль (10 лекцый), 9) Паляўнічая гаспадарка і промыслы (62 лекцыі), 10) Рахункавод. пушніны, мехсыравіны і інш. рацыяналізатарскія спосабы кансэрвіроўкі (14 лекцый), 11) Таваразнаўства паляўн. тавараў (3 лекцыі), 12) Эканоміка і арганізацыя пушнога гандлю (4 лекцыі), 13) Вайсковая справа і стралковы спорт (4 лекцыі) і 14) Страхавая справа (4 лекцыі).

На курсы могуць паступаць усе жадаючыя.

## Новые книги.

**Проф. Д. Н. Кашкаров и проф. В. В. Станчинский. Курс биологии позвоночных. ГИЗ. М.—Л., 1929 г. Стр. 576 с 336 рис. в тексте. Цена 6 руб. 95 коп. в папке.**

Вышедшая книга проф. Кашкарова и Станчинского представляет далеко не заурядное явление в литературе по позвоночным животным. Целью авторов было показать животное „в той среде, в которой оно живет и на изменения в которой реагирует". Поэтому в разбираемой книге очень мало уделено места систематике и анатомии, в отличие от обычных курсов зоологии. Центр тяжести лежит в биологии животного, как и показывает название книги. Хотя книга и предназначена для высшей школы в качестве учебника, она будет полезна вообще каждому, кто интересуется жизнью животных, в частности же и хорошо грамотному охотнику и рыбаку.

В первой части книги — „Рыбы", после краткой характеристики класса рыб, их происхождения и эволюции, рассматриваются свойства воды, как среды для жизни рыб (соленость, содержание газов в воде, температура, глубина, давление, освещение в воде), затем речь идет о форме тела рыб и ее приспособлении к местообитанию, о пище рыб, их окраске, размножении, миграциях, наследственности, болезнях, высшей нервной деятельности рыб и т. п. В заключение рассматривается географическое распространение рыб и их экономическое значение. Примерно по тому же плану построены и остальные части книги, в которых рассматриваются амфибии, рептилии, птицы и млекопитающие. Большая часть книги: 494 страницы из всего количества 576 стр. отведена рыбам, птицам и млекопитающим. В главах, посвященных двум последним отрядам, особенно подробно рассматриваются вопросы о зависимости жизни животного от условий внешней среды. Кроме того в конце глав, где авторы касаются экономического значения птиц и млекопитающих, довольно подробно рассматриваются одомашненные животные, а также промысловые и охотничьи. Заканчивается книга небольшой главой о влиянии человека на изменение фауны млекопитающих. Книга снабжена большим количеством не дурно выполненных рисунков, но цена ее, как и вообще подобного рода изданий, очень высока, что делает ее мало доступной, как для учащейся молодежи, для которой она в первую очередь предназначена, так и для рядового читателя.

**В. Е—ов.**

**Френсис Питт. Моя выдра Мэри. Перевод с английского под редакцией Евгения Лана. Со многими фотографиями. ГИЗ, 1929. Стар. 80. Цена 35 коп.**

В книжке Ф. Питт, являющейся известным американским ученым, рассказывается о воспитании и жизни у автора двух прирученных выдр. Почти изо дня в день повествуется о всех пережитиях, происшествиях и т. п. на протяжении нескольких лет жизни двух выдр в доме автора. Попутно сообщается целый ряд интересных наблюдений над привычками, характером, питанием и другими особенностями выдры. Вся книжка согрета истинной любовью к животным и производит бодрое хорошее впечатление. Ее можно горячо рекомендовать нашей молодежи, но с интересом на ней остановится и взрослый любитель природы. Книжка Питт отличается от известных рассказов о животных Сэтон-Томпсона и Лонга тем, что в ней нет совершенно никаких прикрас и стремления к очеловечению животного. Целый ряд прилично выполненных фотографий с удачными подписями оживляет эту интересную книжку.

**В. Е.**

# Будуем самалёт.

## Уносяць і выклікаюць.

Па выкліку М. Аляксеева ўношу пяць рублёў на пабудову самалёту „Паляўнічы Беларусі“.

**Лебедзяў.**

**Рэчыцкі раён.** Савіцкі, Любан, Пашчэненка, Грунвальд, Скаромны, Мор, Гаўрыленка, Жук, Белы, Брэль, Брэль, Манкевіч, Дзежка, Каліта, Кандраценка, Краўчэнка, Грышчанка, Грамакоўскі, Пінчук Ф., Сапончык, Ярэц, Паўлаў, Вашчыла, Гуз, Бандарэнка, Чырык—**22 руб.**

**Брагінскі раён.** Балабін, Беразьнецкі, Лагвіненка, Сядро, Сакоўскі, Кулай, Смусёнак, Санька Скіжанок, Протчанка, Грушан, Чачко, Лаханскі, Заранкін, Здаравец, Капор.—**6 руб. 75 кап.**

# Адказы чытачам.

Шмялёву А. За забітага ваўка ў 1922 годзе прэмія зараз выдана быць ня можа.

Старшыні бюро Лельчыцкага калектыву. Перасылка робіцца за кошт тых грошай, якія пасылаюцца ў Праўленьне „Белкохотсоюза“ ці ў рэдакцыю „Паляўнічы Беларусі“. Плякатаў пакуль што ніякіх няма.

Цыруку А. М. Рэвольвэры не ваеннай сыстэмы, дазволеныя да продажу, маюцца ў спартыўным аб'яднаньні „Дынамо“. Менск, Савецкая вуліца. Дазволы на набыцьцё і хаваньне рэвольвераў выдаюцца ДПУ. У паказаныя ўстановы і зьвяртайцеся.

Цэцераву Янку. Паляўнічыя іншых Саюзных рэспублік, стала пражываючыя на межы БССР, калі яны ў бліжэйшым калектыве саюзу паляўнічых БССР ня ўнесьлі тых збораў, якія бяруцца ў БССР, паляваць на тэрыторыі БССР ня маюць права.

У тых-жа выпадках, калі паляўнічыя іншай Саюзнай рэспублікі знаходзяцца часова на тэрыторыі БССР, то палююць на агульных падставах.

Шчэрбіку Я. А. 1) Адносна скарыстаньня пад „крольчатник“ паказанага вамі вучастку зямлі зьвярнецеся ў Рэчыцкі РВК. 2) Якія будаваць памяшканьні для трусоў? Гэта вы знойдзеце ў кніжцы „Доходное кролиководство“ праф. Елагіна, якую, выпішаце з рэдакцыі „Паляўнічы Беларусі“. 3) Крольчатник“ можна будаваць пры любым ліку паляўнічых. 4) Калі разьвядзеньнем трусоў будзе займацца калектыў з членаў зьверагадоўчае сэкцыі саюзу паляўнічых, то будзе аказана дапамога як грашмі, так і заводзкімі трусамі. 5) Пакуль што племянных трусоў у „Белкохотсоюзе“ няма. Будуць увясну. На апошнія пытаньні вы знойдзеце адказ у кніжцы „Доходное кролиководство“.

Гермузевічу Вячаславу. Якія лепшыя ганчыя сабакі для паляўнічага-селяніна? Адказ на гэта вы знойдзеце ў кніжцы Аляксеева „Паляўнічы сабака, яго гадоўля і навучаньне“. Адказаць, колькі будзе каштаваць перасылка сабакі да г. Гомелю—рэдакцыя ня можа, бо ня ведае, якую сабаку і як вы хочаце перасылаць. Думаем, што ня дорага. У гадавальніку паляўнічых сабак „Белкохотсоюза“ польскіх парод ганчакоў няма. Ёсьць рускія і англарускія, якія лічацца лепшымі за польскіх.

Вучню „неизвестному“. Няпоўналетнім дазволу ні на якую стральбу не дадуць. Паляўнічыя газэты ды часопісі можаце выпісваць праз любое газэтнае бюро пошты. „Паляўнічы Беларусі“, апроч таго, можна выпісваць праз калектыў паляўнічых.

## Письмо в редакцию.

*Уважаемый тов. редактор!*

Прошу не отказать в помещении на страницах редактируемого вами журнала следующее:

„1 сентября 1929 года вблизи гор. Витебска в окрестностях теплого леса на Топорковское озеро мною пущена закольцованная кряковая утка с надписью на кольце: „Витебск 1/IX 1929 г.“. Просьба ко всем товарищам охотникам Союза ССР, кои возможно добудут упомянутую утку, сообщить через охотничью печать—где и когда она была добыта?

Прошу всю охотничью печать Союза ССР перепечатать мое письмо.

**Кошко.**

Адрес: Витебск, ул. Бебеля, № 62.

## Аправяржэньне.

У № 9 часопісі „Паляўнічы Беларусі“ была зьмешчана заметка „Ад чаго бываюць няўдачлівыя аблавы“, у якой абвінавачваецца загадчык культурнае гаспадаркі „Белкохотсоюза“ т. Барташ, што кепска правёў аблаву.

У рэдакцыю паступілі весткі, што аблава прайшла няўдала не па віне т. Барташа.

Рэдакцыя.

## Паштовая скрынка.

**Кашко**—Ваш артыкул аб Віцебскіх палявых пробах ганчакоў спазьніўся.

**Карлоўскаму**—ня пойдзе.

**Паляўнічаму за № 568**—ня пойдзе. Ганчак ня можа быць унівэрсальным, а ахоўваць дзіч трэба. Нараканьні Вашы на гарадзкіх паляўнічых—пустыя.

**Былінка**—верш слабы—ня пойдзе.

**Кашко**—аб гэтым пісалася ў № 10.

„Охотнику“—ваш артыкул аб Бешанковіцкім колектыве паляўнічых ня пойдзе, бо аб гэтым паведамляецца ў артыкуле „Як жывем, што робім“ у гэтым нумары. Паляўніку—артыкул „Памірыліся“ ня пойдзе. Дробязны факт. Сьцяпану Глушцу—арт. „Неабходна вычысьціць“ пераслан праўленьню „Белкохотсоюза“ для прыняцьця мер. Фурсу Л. М.—„Як нельга будаваць калгасы“ перасланы у „Беларускую вёску“. Шылыцу—паведамляемы вамі факт—дробязь, не надрукуем. Сьцяпану Глушцу—„Неабходна растлумачыць“—дробязь. М. Б.—„Па дарозе да дому“ і „На паляваньні“ (вершы)—ня пойдзе. Дасылайце лепш допісы

*Часопісь выходзіць пад рэдакцыяй:* **М. Ф. Шмідта, У. С. Данькова і Г. Я. Хлеўнікава.**

*Адказны рэдактар:* **Міх. Шмідт.**

**1930 г.**
4-й год издания

## ОТКРЫТА ПОДПИСКА
на двухнедельную иллюстрированную

# „ОХОТНИЧЬЮ ГАЗЕТУ“

Издание Пром.-Коoп Т-ва „Московский Охотник и Рыболов“.

**ПОДПИСНАЯ ПЛАТА: на 1 год—2 р. 40 к., на полгода—1 р. 20 к., на 3 мес.—60 к.**

Все годовые подписчики, уплатившие до 1 апреля 2 р. 40 к., **получают бесплатно приложение**—2 брошюры: 1) Хищные птицы и борьба с ними и 2) Рыбная ловля в проводку.

**Годовые подписчики за доплату в 1 р. 10 к. получают 12 брошюр** приложений, т. е. уплатив 3 р. 50 к. они получают в течение года 24 номера иллюстрированной „Охотничьей Газеты“ и 12 следующих брошюр:

1) Заказники, заповедники и приписные хозяйства, 2) Кролиководство, 3) Гончая и ее стандарт, 4) Пойнтер и его стандарт, 5) Английский сеттер и его стандарт, 6) Ирландский сеттер и его стандарт, 7) Хищные птицы и борьба с ними, 8) Охота на барсуков и лис с фокстерьерами, 9) Охота на мелких зверьков, 10) Стэнд и стрельба на стэнде, 11) Рыбная ловля в проводку и 12) Технические советы рыболову.

**Годовым с приложением подписчикам допускается рассрочка:** при подписке 1 р. 50 к., до 15 февраля—1 р. и до 1 апреля 1 р. (при каждой высылке денег указывать обязательно „годовая с приложением“).

После 1-го апреля годовая подписка ни в каком случае не принимается, так как тираж приложений ограничен.

Подписка на „ОХОТНИЧЬЮ ГАЗЕТУ“ принимается в Редакции, а также во всех почтовых отделениях и у письмоносцев.

Подписную плату адресовать:
**Москва, Никольская, 4, пом. 14, редакции „Охотничьей Газеты“.**

Просьба к подписчикам четко, разборчиво писать свой адрес и точно излагать заказ.

Во избежание опозданий в высылке „Охотничьей Газеты“ и приложений просьба не задерживать подписку до последних сроков.

Первый номер „Охотничьей Газеты“ в 1930 г. выйдет 5 января.

Первые 3 брошюры приложений будут разосланы в апреле месяце.

„Охотничья Газета“ будет выпускаться 2 раза в месяц 5 и 20 числа и содержать по 10 страниц.

**„Охотничья Газета“ имеет отделы:** 1) Освещение организационных вопросов охоткооперативного строительства, 2) Охотничье хозяйство, 3) Беллетристика, 4) Собаководство, 5) Охотничье оружие, 6) Рыболовство, и рыбоводство, 7) Жизнь мест и 8) Вопросы и ответы.

На все вопросы подписчики получают ответы специалистов или через „Охотничью газету“, или письменно (на ответ прилагать открытку или 10 коп. почтовую марку).

Все годовые подписчики пользуются бесплатной помощью специалистов в выборе ружей, собак и снаряжения.

# ПРОДАЕТСЯ ХОРОШЕЕ РУЖЬЕ

**фирмы „ДЖЕМС ПЕРДЗ“, 12 калибра, бескурковка, хорошей работы.**

**ОБРАЩАТЬСЯ—Минск, Пулихова Слобода, д. № 13, Змудзинскому Г.**



## ЗООЛОГИЧЕСКИЙ МУЗЕЙ БЕЛ. АКАДЕМИИ НАУК

**ПОКУПАЕТ СВЕЖИЕ ЖЕЛУДКИ ЛИСИЦ,**

с отметкою относительно: 1) пола животного; 2) места; 3) числа месяца; 4) часа суток добычи его.

**ИНСТРУКЦИЯ:** Для полного сохранения содержимого желудка, необходимо при вырезывании его, перевязать шпагатом часть пищевода и кишечника, чтобы содержимое не вытекало.

ЖЕЛУДКИ МОГУТ БЫТЬ ДОСТАВЛЯЕМЫ как в свежем виде, так и в замороженном.

Желудки лисиц, отравленных стрихнином, должны иметь соответствующую пометку.

**Плата за желудок 50 коп.**

МАТЕРИАЛ ПРИНИМАЕТСЯ: в Зоологическом Музее БАН, **Минск, Центральный Дом Селянина, 4-й этаж, с 10 час. утра до 4 ч. дня.**

Друк. БДВ. Заказ. № 593. 10.000 экз. Галоўлітбел № 443.